PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 24 (2092) Год XLI Беласток 16 чэрвеня 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)

# „Не досыць, што мурын, то яшчэ і жыд”



**Размова з Яцкам КУРАНЕМ, старшынёю Сеймавай Камісіі нацыянальных меншасцей.**

***— Вашы дачыненні да нацыянальных меншасцей, гэта, здаецца, даўжэйшая прыгода, чымсьці толькі апошнія гады старшынёўства сеймавай камісіі.***

— Можна сказаць, што гэта прыгода ўсяго майго жыцця. А пачалася яна ў Львове, зараз пасля майго нараджэння. Мая маці захварэла на ружу грудзей і выкарміла мяне ўкраінская дзяўчына, Бранця. Калі мяне дарослыя пыталі, каго больш кахаеш, тату ці маму — задаюцца часам такія дурныя пытанні дзецям, — то я адказваў: Бранцю. Яна гаварыла да мяне па-ўкраінску і спявала мне ўкраінскія песні. У сувязі з гэтым, для мяне па сённяшні дзень украінская мова, як музыка.

Львоў у той час быў шматнацыянальным горадам: палякаў, украінцаў, яўрэяў, армян. Пачаткі разумення нацыянальнага пытання, калі можна так сказаць, я высcаў з малаком маткі. Цяжка мне вызначыць, наколькі быў гэта горад сужыцця розных народаў, а наколькі канфліктаў, бо гэта з сабой заўсёды перапляталася. Прафесар Ромер, калі яго спыталі, кудою ва ўсходняй Малапольшчы ідзе мяжа між палякамі і русінамі, адказаў: праз ложак.

У дарослым жыцці я ўжо даўно таму зразумеў, што прыйшлося нам жыць разам на зямлі, якая з'яўляецца бацькаўшчынай многіх народаў. І межы між імі такія, як крыху жартам паказаў іх прафесар Ромер. Не можна запярэчыць, што Беласточчына гэта радзіма беларусаў, а Гродзеншчына — палякаў, Сейненшчына — літоўцаў, а Віленшчына — палякаў, але і беларусаў, і літоўцаў. Калі хтосьці кажа, што Беласточчына не беларусаў, дык няхай не гаворыць, што Гродзеншчына — палякаў.

***— Даводзіцца часам чуць пра парытэт у трактоўцы меншасцей, як вы нашым там, так мы вашым тут.***

— Калі мяне пытаюць, як я клапачуся пра палякаў у Гродне, адказваю: дапамагаю беларусам Беласточчыны. І гэта аргумент. Няма горш, чымсьці рабіць наадварот: мы вам забярэм, то мы вам забярэм і зноў мы вам забярэм, так без канца. З гэтага самыя няшчасці.

Мая мара такая, каб мы жылі са свядомасцю супольнай айчыны і ведалі праўду, што калі яна таксама і беларуская, з-за гэтага не становіцца менш польскай.

***— Ці камісія для кантактаў з нацыянальнымі меншасцямі пры Грамадзянскім камітэце ўзялася з гэтай мары? Прыгадайма, што быў 1989 год, столькі, здавалася б, больш важных спраў.***

— Няма, па-мойму, больш важных спраў. Калі мы не сумеем жыць з сабою, нас безупынна будзе душыць дыктатура. Я не антырасейскі, у мяне шмат сімпатыі для рускага народа, але няма чаго таіць праўду, што імперыяльная Расея, якая пакарыла і Беларусь, і Украіну, з'яўляецца пагрозай. Я блізкі расейцам, а беларусам яшчэ больш і таму кажу: нікому не будзе добра ад уціску іншых. Таму ўвесь час трэба было шукаць прыбліжэння, узаемаразумення. Я гэта ўвесь час гаварыў, нават у час КОРу (Камітэт абароны рабочых — М.В), але былі вялікія цяжкасці наладзіць кантакты. Я гэта дасканала разумею. Ёсць такі анекдот: Едзе негр падземкай і чытае яўрэйскую газету. Падыходзіць да яго чалавек і кажа:

***(працяг на стар. 4)***

Ганна Кандрацюк

# Зямля ў тым месцы тры дні варушылася

**16 чэрвеня 1942 года ў Райску, што на Бельшчыне, немцы расстралялі 149 асоб. Забівалі паводле прынцыпу: „па галаве з сям'і”. Калі не было бацькі, расстрэльвалі сына, жонку ці дзеда. Моладзь ва ўзросце 9–20 гадоў вывезлі ў Нямеччыну. Апошніх ацалелых, кабеты з дзяцьмі, рассялілі пад Боцькі і Мілейчычы. Сам Райск таксама тады спалілі. Пазней выбралі нават брук, пазрэзвалі дрэвы, разабралі мураваную царкву.**

### Ужо амаль легенда

Пра трагічны чэрвень 1942 г. зрадзілася шмат легенд. Яўгенія Шумская, якая пры *камуне* абслугоўвала экскурсіі, успамінае, што найбольш турыстам падабалася легенда пра гераічную смерць **Вольгі Семянюк**. Дзяўчына, апавяшчае легенда, была да таго прыгожая, што і немец не хацеў яе расстраляць. Паказваў ёй, каб уцякала ў жыта, каб ратавалася. А яна не! Не хацела яго ласкі. Загінула як гордая жанчына, разам са сваімі вяскоўцамі. Пазней гэты немец, гаворыць тая ж легенда, здурэў ад таго злачынства. Як у шпіталь папаў, то Гітлера лаяў, немцаў ад найгоршых называў. Яўгенія Шумская сама не памятае таго здарэння. Было ёй тады паўтара годзіка. Расказы напамінаюць мне вядомыя ўжо сюжэты з беларускай літаратуры. Усё там паводле схемы — няшчасны і горды народ, праклятыя гітлераўцы і іх прыслужнікі-здраднікі.

Пазней бачу, што ў Райску дзве версіі здарэння. Адна — прапагандысцкая для турыстаў і афіцыйных чыноўнікаў, другая — балючая, асабістая. Пра тую другую людзі баяцца думаць. Праследуе яна іх усё жыццё, сніцца невыносным кашмарам. Час аднак сам выяўляе праўду. Час па-свойму тлумачыць кожнае здарэнне.

— Як была *улада людова*, то і на магіле галасней плакалі, — успамінае спадарыня Яўгенія. — Бывала, як *улады* 16 чэрвеня з'едуцца, то бабы і плакалі, і галасілі! А цяпер, калі Райск *улад* ужо не цікавіць, і плач не той. Зыдуцца свае, памоляцца ды і разыходзяцца па хатах.

Няма ўжо ў вёсцы школы і вучняў, якія апекаваліся магілай ахвяр. Адны ўказальнікі пра месца пакуты ў пачатку і сярэдзіне вёскі ды распадаючаяся ўжо скульптура побач стройнага дома культуры напамінаюць пра зрух у 60—70 і 80-ыя гады, пра прапаганду, да якой заангажавалі людзей з Райска.

— Я то чула, што гэта Вольга інакш загінула, — уключаецца ў размову старэйшая кабета, якой муж тады нарачоным гэтай прыгажуні быў. Расказваў ёй, як пасля некалькіх дзён магілу раскапаў. Выняў яе з магілы і бачыць, што ў яе пальцы да касцей паабкусваныя. Відаць, недабітую зямлёй засыпалі. Казалі людзі, што **тры дні зямля ў тым месцы варушылася. Пазней палопала, а шчылінамі кроў выцякала.**

— То мой Валік, — успамінае кабета, — вядром з поля зямлю туды сыпаў. Каб магілу было відаць, каб памяць не прапала.

### Не кажы, што ты з Райска

Райск наведала я ў сярэдзіне мая, святочным днём. Якраз адправілася багаслужба і Іван Галакан замыкаў царкву. На пытанне пра трагічны чэрвень спадар Галакан накіраваў мяне да кабет, што адпачывалі на лавачцы.

— Яны гэта перажылі, а я па вайне

***(працяг на стар. 5)***

# Мы прачыталі

*Kiedy Białorusin chce zobaczyć Łukaszenkę — włącza mińską telewizję. Kiedy chce się rozerwać — włącza telewizję moskiewską. Ludzie na ulicach Mińska przypominają warszawiaków z lat stanu wojennego. I tak jak w Warszawie mijało się kogoś ze znaczkiem „Solidarności" w klapie, tak w Mińsku co raz widzi się znaczek w barwach zakazanej flagi.*

*Kurier Poranny, nr 122*

* * *

*Но я верю, что Беларусь всё-таки скоро станет правовым государством, а не политической проституткой в чьих-то грязных руках. Президент Лукашенко не терпит рядом образованных, интеллигентных людей, имеющих свое мнение. Чрезвычайно завистлив и до унижения приветлив с более сильным и нужным ему человеком. Сравните выражение его лица на собрании „вертикальщиков" и при встрече с Ельцыным — земля и небо! Этот человек способен на клевету, обман и любую авантюру ради достижения своих тщеславных целей. Но, вместе с тем панически труслив. А посмотрите на этот портретный ажиотаж. С благоволения Лукашенко всё окружение „молится" на его изображение. Маразм!.. Иначе, чем „мы" он себя уже не называет,* — сказаў былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка.

*Свабода, н-р 35*

* * *

*W ciągu 200 lat Polska trzy razy przeżyła targowicę. Żadne wojska nie obronią naszej niepodległości, jeśli sami nie zabezpieczymy się przed wrogiem wewnętrznym. Bo w Polsce drzemie gdzieś w ukryciu piąta kolumna,* — сказаў Ян Новак-Езёраньскі.

*To nie piąta kolumna jest głównym zagrożeniem dla naszej niezależności. Jest nim to, że nie mamy żadnej wizji Polski ani wiary we własne siły — cały czas potrzebujemy „starszego brata". Kiedyś był nim Związek Sowiecki, teraz Stany Zjednoczone. Odzyskanie niepodległości w 1918 r. było rezultatem realistycznej polityki Piłsudskiego, który opierając się na zimnej kalkulacji zaczął współpracować z Austrią i Niemcami, ale Legiony jego były wrogo przyjęte przez społeczeństwo. Tak samo przestaliśmy się łudzić, że Polska własnymi siłami zrzuciła z pleców sowieckiego hegemona. Było to przede wszystkim rezultatem kryzysu w Związku Sowieckim. Weszliśmy w ponownie odzyskaną niepodległość bez żadnej wizji Polski i z miejsca zaczęły się rozgrywki partyjno-polityczne. Okazało się, że cała elita była kompletnie nieprzygotowana.*

*Ale najważniejsze jest nasze położenie geopolityczne. Zdawałoby się, że wszyscy w Polsce już zrozumieli, jak wielkie znaczenie mają dla nas niepodległe Ukraina, Białoruś i państwa bałtyckie. Niestety, ograniczono się tylko do deklaracji... Następuje wchłanianie Białorusi przez Rosję, a my reagujemy cofnięciem pomocy dla prasy białoruskiej na Białostocczyźnie,* — сказаў Ежы Гедройць.

*Gazeta Wyborcza, nr 124*

* * *

*Od tego roku w archidiecezji białostockiej obowiązują nowe zasady bierzmowania młodzieży szkolnej. Na kilka tygodni przed ceremonią kandydaci powinni skierować do arcybiskupa Stanisława Szymeckiego list z prośbą o udzielenie tego sakramentu. W niektórych szkołach katecheci wymagają od dzieci szczegółowych zwierzeń, dotyczących domowych praktyk religijnych.*

*Gazeta w Białymstoku, nr 121*

* * *

*W Polsce ok. 300 tys. osób utrzymuje się z zawodowego uprawiania przestępstwa. Grupy przestępcze mają powiązania z urzędnikami różnych szczebli. Działalność rozmaitych mafii stała się jednym z najistotniejszych problemów przed którymi stoi nasz kraj. W Polsce działa ok. 300 zorganizowanych grup przestępczych, łącznie pracuje w nich 6 tys. profesjonalnych bandytów. Haracz na rzecz band stał się jeszcze jednym koniecznym do zapłacenia podatkiem. Dziś praktycznie każdy może stać się w miejscu publicznym przypadkową ofiarą gangsterów.*

*Wprost, nr 22*

* * *

*Прэзідэнт Польшчы: інтэлігентны, энергічны і прыгожы,* — піша лукашэнкаўская

*Народная газета, н-р 116*

* * *

*Na etykiecie duńskiej wódki pojawił się następujący napis: „Dawka śmiertelna 4,5 promila alkoholu we krwi. Nie dotyczy Polaków i Rosjan".*

*Wprost, nr 22*

* * *

*Усё на гэтым свеце паўтараецца. Шмат стагоддзяў назад няпрошаныя госці, якія аддавалі агню і мячу славянскія землі, забіралі з сабой не толькі золата, але і жанчын — маладых і самых прыгожых. Галасілі ў бязмежным горы нявольніцы, кляліся адпомсціць за іх акрываўленых на полі бітвы мужчыны. Сёння некаторых прадстаўніц прыгожага полу знoў звозяць далёка ад роднага краю. Праўда, не на конях, а на шыкоўных аўтамабілях. Ніхто з прыгажунь не плача, не пратэстуе, ніхто з мужчын, каб іх абараніць, не кідаецца пад колы іншамарак. У мужчын цяпер іншы інтарэс: адшукаць і выгадна прадаць прыгожы „тавар", раней забяспечыўшы яго загранічным пашпартам для транспарціроўкі ў краіну пакупніка.*

*Звязда, н-р 121*

Едуць славянкі ў Еўропу!

# З мінулага тыдня

**Сярэднееўрапейская Ініцыятыва**, на пасяджэнні міністраў замежных спраў у Вене, прыняла ў свой склад пяць новых членаў: Албанію, Балгарыю, **Беларусь**, Румынію і Украіну. Ініцыятыву складаюць цяпер пятнаццаць дзяржаў, у ліку якіх знаходзіцца таксама і Польшча. У Вене разглядаліся пытанні супрацоўніцтва з Еўрапейскай Уніяй, еўрапейскай інтэграцыі і ходу міратворчых працэсаў на Балканах.

**Лідэры БНФ Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык** разам з лідэрам партыі Пагадненне Цэнтр **Яраславам Качынскім** правялі ў Варшаве прэс-канферэнцыю для польскіх і замежных журналістаў. Шэф ПЦ адзначыў эскалацыю аўтарытарнага рэжыму ў Беларусі і выступіў з ініцыятывай сабраць агульны сход дэмакратычных партый Польшчы, каб арганізаваць сумесную камісію з паслоў Сейма і накіраваць яе ў Беларусь для вывучэння сітуацыі з правамі чалавека. Зянон Пазьняк і Сяргей Навумчык знаходзяцца ў Польшчы ў вымушанай эміграцыі. У Беларусі іх чакае арышт.

**Сяргей Посахаў** — саветнік прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, пасля наведання Польшчы і пабыўкі ў Беластоку заявіў, што інцыдэнт з выдварэннем дэлегацыі „Салідарнасці" з Беларусі ўвогуле не выклікаў у польскім грамадстве бурнай адмоўнай рэакцыі ці большага зацікаўлення. Спасылаючыся на сваіх польскіх суразмоўцаў, сказаў ён, што ў Польшчу даходзіць з Беларусі неаб'ектыўная інфармацыя з апазіцыйных крыніц. На яго думку, Беларусь павінна мець у Польшчы прадстаўнікоў сваіх газет і тэлебачання.

**Workship** — так называлася прамоцыя фірм паўночна-ўсходняга рэгіёна Польшчы, якая адбылася ў польскім пасольстве ў Лондане. Наша ваяводства прадстаўляў, між іншым, Беластоцкі мясакамбінат, які шукае выхаду на заходнія рынкі.

**Царква св. Мікалая**, касцёлы Нараджэння ПДМ і св. Роха ды ратуша ў Беластоку яшчэ ў гэтым годзе будуць падсветлены спецыяльнай ілюмінацыйнай устаноўкай. Зараз гарадскія ўлады аб'явілі конкурс на праект ілюмінацыі гэтых чатырох архітэктурных помнікаў.

**У Гайнаўцы** з трохдзённым візітам пабывала дэлегацыя нямецкага горада **Сан-Аўгусцін**, які ўжо некалькі гадоў супрацоўнічае з прыпушчанскім горадам. Уладам Гайнаўкі залежыць перш за ўсё на дапамозе ў ліквідацыі неэкалагічных кацельняў, турыстычных інвестыцыях, абмене маладзёжнымі групамі і мастацкімі калектывамі.

**Падляшскае канфекцыйнае прадпрыемства ў Бельску-Падляшскім** (колішняе „Каро") з пачатку чэрвеня апынулася ў камісарскім упраўленні. Заводу, у якім на дзве змены працуюць 130 чалавек, пагражае банкруцтва з прычыны складанага эканамічнага становішча. Задоўжанасць прадпрыемства дасягнула ўжо 6,74 млрд. ст. зл. Управа горада, казна і іншыя установы адтэрмінавалі пагашэнне задоўжанасці з надзеяй, што камісару ўдасца прыдбаць фірме новы капітал, абсталяванне і заказы ды такім чынам выратаваць прадпрыемства ад банкруцтва.

**Восем грамадзян Беларусі** былі прыцягнены да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правапарадку на пагранічным чыгуначным пераходзе ў Кузніцы-Беластоцкай. Двух мужчын і шэсць жанчын у нецьвярозым стане ўчынілі скандал, за што спачатку папалі ў выцвярэзнік, а на другі дзень апынуліся перад калегіяй і былі аштрафаваны па 250—350 зл.

## Неўзабаве ў „Ніве"

- **Як родзяцца ўкраінскія паэты на нашай зямлі** — расказвае Вольга Анацік з Ягуштова.
- **Чаму людзі не любяць капіталізму.**
- **Беларускі культурны сезон на Беласточчыне.**

# Весткі з Беларусі

**Антыпрэзідэнцкая дэманстрацыя**

Беларуская міліцыя арыштавала 84 чалавек пасля трохтысячнай антыпрэзідэнцкай дэманстрацыі ў Менску 30 мая. Затрыманым пагражае да 15 дзён арышту за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу і парушэнне публічнага парадку. Паводле наглядальнікаў, міліцыя выкарыстоўвала газ і паводзіла сябе вельмі брутальна, у выніку чаго больш за пяцьдзесят асоб атрымалі цялесныя пашкоджанні. Дэманстранты патрабавалі спыніць расследаванне супраць лідэраў БНФ Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка і вызваліць з турмы сем украінскіх грамадзян, арыштаваных 26 красавіка падчас „Чарнобыльскага шляху".

**Рэакцыя парламента**

31 мая на пасяджэнні Вярхоўнага Савета дэпутаты Мячэслаў Грыб, Анатоль Лябедзька, Людміла Гразнова, Генадзь Карпенка патрабавалі высветліць падзеі, якія здарыліся напярэдадні ў Менску. Пасля вострай дыскусіі дэпутаты згадзіліся стварыць часовую камісію па расследаванню інцыдэнту ад 30 мая, а Анатолю Лябедзьку было даручана падрыхтаваць праект пастановы і склад камісіі з удзелам прадстаўнікоў усіх парламенцкіх фракцый.

**Кантроль за „Інтэрнетам"**

Адміністрацыя Прэзідэнта выдала спецыяльнае распараджэнне, якое абавязвае ўсіх карыстальнікаў сеткі „Інтэрнет" у Беларусі зарэгістравацца ў міліцыі. Кожны, хто мае адрас электроннай пошты, абавязаны стаць на ўліку ў сваім раённым аддзяленні ўнутраных спраў. Хто не зарэгіструецца на працягу 30 дзён, будзе пакараны. На думку аўтараў распараджэння, павінна яно „садзейнічаць здароваму развіццю інфармацыйнай вытворчасці ў Беларусі, а таксама спыненню антынароднага інфармацыйнага патоку". У сусветнай практыцы няма вопыту рэгістрацыі карыстальнікаў „Інтэрнэту" ў паліцэйскіх структурах, як і факсаў у структурах сувязі.

**Непапулярны спікер**

Намеснік старшыні парламенцкай камісіі па правах чалавека Уладзімір Нісцюк выказаў гатоўнасць распачаць збор подпісаў за адкліканне Сямёна Шарэцкага з пасады старшыні Вярхоўнага Савета. Многія дэпутаты вельмі незадаволены стылем працы спікера, выкананнем ім сваіх канстытуцыйных абавязкаў. Нісцюк лічыць, што праца ВС і Прэзідыума дэзарганізавана, не выконваюцца дэпутацкія запыты на імя Шарэцкага, дагэтуль не створаны канстытуцыйны савет па падрыхтоўцы законапраектаў, зацягваецца разгляд законаў, якія непасрэдна павінны паўплываць на эканамічную сітуацыю, а разглядаюцца другачарговыя справы.

**Стыхійны мітынг**

Затрымка выплаты заработнай платы за сакавік—красавік стала прычынай стыхійных выступленняў рабочых на Менскім заводзе колавых цягачоў. 28 мая а 8 гадзіне раніцы рабочыя сабраліся каля адміністрацыйнага корпуса, дзе адбыўся мітынг. У прафсаюзным камітэце завода прайшоў сход прадстаўнікоў розных цэхаў. Яны сфармулявалі патрабаванні: у адрас адміністрацыі завода — пакрыць да канца мая запазычанасці па зарплаце і ў адрас Вярхоўнага Савета — надаць заработнай плаце статус першачарговага плацяжу. Акрамя таго ўдзельнікі мітынгу склалі ліст да прэзідэнта з просьбай асабіста ўмяшацца ў праблемы завода.

**Незвычайнае фінансаванне**

У Брэсце на мэблевай фабрыцы рабочыя вымушаны былі перайсці на незвычайнае фінансаванне. Механізм яго просты: рабочыя самі знаходзяць пакупнікоў, прапануюць ім прадукцыю фабрыкі без усялякіх гандлёвых накрутак. Звычайна гэта адбываецца каля мэблевых магазінаў горада. Затым пакупнік ідзе на фабрыку, падбірае патрэбную мэблю і аплачвае яе. Рабочыя адразу, не адыходзячы ад касы, дзеляць грошы паміж сабою ў якасці зарплаты.

**Меркаванне суперзоркі**

У Менску пабывала суперзорка сусветнай оперы Мансерат Кабальe. У аэрапорце спявачка правяла кароткую прэс-канферэнцыю, на якой падзякавала арганізатарам за цёплы прыём. Свае першыя ўражанні аб беларусах спявачка выказала так: „Вашы людзі якіесьці натуральныя, несапсаваныя, робіць уражанне чыстай нацыі". Мансерат Кабальe выступіла з канцэртам у Тэатры оперы і балета.

**У школе ў Курашаве толькі шасцёра дзяцей не вывучае беларускую мову.**

# Кожны метад мае сэнс

Курашаўская школа не вельмі вялікая, хаця 7 класных пакояў месцяцца аж у двух даволі прасторных будынках. Вучыцца тут 48 школьнікаў і 14 дзяцей — у прадшкольным аддзяленні. Да дввюх дзяўчынак з калецтвам настаўнік прыходзіць дахаты.

Пачынаючы ад другога класа, 38 школьнікаў вывучае беларускую мову. У даны момант усяго адзін хлопчык у другім класе яе не вывучае. Аднак і ён прыходзіць слухаць казкі або тады, калі ёсць нейкія гульні. Вывучаюць беларускую мову таксама дзеці з каталіцкіх сем'яў. Два хлопчыкі ходзяць на праваслаўную рэлігію і беларускую мову. Купляюць „Ніву”.

Ад 1988 года беларускую мову выкладае ў школе вопытная настаўніца Людміла Дзмітрук. Да таго часу 11 гадоў вучыла яна ў курашаўскай школе ў класах 1—3. Два гады таму закончыла завочна беларускую філалогію ў Варшаве.

Дзеці ў школе ахвотна вывучаюць беларускую мову, кажа настаўніца, прымаюць удзел у дэкламатарскіх конкурсах і ў аглядах беларускай песні. Ёсць у нас дзявочая група „Рамонкі”. Вельмі добра спяваюць і дэкламуюць! Асабліва Малгажата Янчук.

На жаль, гэта бацькі часам тармозяць дзіцячыя парывы, расказвае Людміла Дзмітрук. Быў калісь у другім класе вучань (цяпер ён ужо ў чацвёртым), які прыходзіў на заняткі, але ўсё прасіў, каб я не гаварыла маме. Гэта працягвалася два месяцы. Сітуацыя выяснілася неспадзявана. Сустракаю яго маці і пытаюся, ці ведае яна, што яе сын прыходзіць на заняткі па беларускай мове. Яна глянула на мяне са здзіўленнем і кажа: „Як хоча, то няхай ходзіць!” Я яшчэ з ёй пагаварыла: запісваць яго пакуль не буду, але няхай ходзіць. Назаўтра прыбягае радасны хлапец: „Проша пані, мама мне дазволіла!” Тое ж самае было і з яго старэйшым братам. Дзеці хочуць вучыцца, гэта бацькі не дазваляюць. Усяго шасцёра дзяцей у школе не вывучае беларускую мову (трое — з праваслаўных сямей і трое — з каталіцкіх). Цяпер той старэйшы брат (вучыцца ў 5 класе) удзельнічае ў конкурсах, атрымлівае пяцёркі. Дзіця трэба заахвоціць!

Раней была маладая настаўніца, і, калі дзеці заканчвалі першы клас, у яе ніхто не купіў ніводнага буквара: дзеці сказалі, што не будуць вывучаць беларускую мову.

У пачатку новага навучальнага года, успамінае Людміла Дзмітрук, калі я прыйшла ў другі клас, дзеці і мне сказалі, што не будуць вывучаць беларускую мову. Ну, нічога, кажу. Вы сёння пасядзіце на ўроку, а я вам пачытаю казачкі. Слухалі мяне ўважна, а калі я заўважала, што дзеці нечага не зразумелі, дык я перакладала на наш дыялект.

У канцы ўрока я сказала дзецям, каб намалявалі ілюстрацыі да тых казак, якія яны пачулі, і будуць узнагароды. На наступны раз прынесла я ім кілаграм цукерак, сказала, што ўсе працы прыгожыя, ды ўсім паставіла пяцёркі. Цукеркі падзяліла на ўсіх.

А пасля ўсе дзеці папрасілі буквары і ад таго часу пачалі вывучаць беларускую мову. Дырэктарка толькі ўсміхалася: падкупіла, кажа. А я сапраўды любіла купіць кніжку і падарыць здольнаму дзіцяці. Усім дзецям купіла калісьці „Міколку-паравоза”, цяпер гэту кніжку ў школе не чытаем... Купляла і кніжкі Віктара Шведа, ураджэнца нашай зямлі.

**Лічу, што ў гэтай справе кожны метад мае сэнс.**

У курашаўскай школе амаль усе вучні чытаюць „Ніву”. У нас разыходзіцца 22 экземпляры, кажа Людміла Дзмітрук, а ёсць з аднае сям'і па двое, і па трое дзяцей, дык яны купляюць адну газету на сям'ю.

Чаму пачалі выпісваць „Ніву”? Я сказала вучням, што хтосьці прыедзе з „Нівы”, назбірала 15 чалавек, якія хацелі купляць „Ніву”. Калі ж прыехала да дзяцей „Зорка”, дык заказалі ёе 22 асобы. Нічога не дапаможа так, як асабістыя сувязі.

**Значыцца, трэба ездзіць.**

А што ў „Ніве” людзей цікавіць? Яны хочуць чытаць пра сябе, „Ніва” ж, яна для простага чалавека. Каб здымкаў было больш, здымкаў звычайных людзей.

Шкада, што амаль нічога цяпер няма ў дапамогу настаўнікам. Калісь друкаваліся канспекты ўрокаў, дапаможныя матэрыял па граматыцы. Такія рэчы варта даваць!

Пытаю пра дзяцей Людмілы Дзмітрук. Тры сыны, кажа яна, шкада, што няма тут наймалодшага Міхася. Ён бы вам найбольш нагаварыў! Цяпер заканчвае школу і збіраецца ў Бельскі беларускі ліцэй, туды, дзе вучыўся сярэдні сын Юрка, туды, дзе і я вучылася. Юрка цяпер заканчвае другі курс завочнага аддзялення права на Філіяле Варшаўскага універсітэта ў Беластоку, старэйшы сын закончыў Механічны тэхнікум у Бельску і працуе ў нарваўскім „Пронары”.

Міхась учора згубіў вершы, які сам напісаў. Быў такі злосны, што не падыходзь. Ужо ў „Зорцы” былі апублікаваны яго два ці тры вершы. Быў у Бандарах на сустрэчы карэспандэнтаў „Зоркі”, едзе цяпер у Бельск, кажа задаволеная мама.

І чытачы „Зоркі” ўжо Міхаську Дзмітрука добра ведаюць і зычаць яму далейшых творчых поспехаў. А што вершык згубіўся — не бяда. Мяркуем, што будуць дзесяткі іншых твораў.

**Ада Чачуга**

*Фота аўтара*



*Настаўніцы Людміла Дзмітрук (справа) і Крыстына Янчук з курашаўскай школы.*

# Думкі мае, думкі...

Калі чалавеку няма чым заняцца, тады найбольш у галаву яму думак сунецца. Так як мне зараз. Два вольныя дні. Адпачынак. У сераду Міколы, у чацвер Ушэсце. Калі чалавек гаспадаркай займаецца, то на фэст у Гайнаўку ці Арэшкава не падзе. Не тыя гады! І здароўе ўжо не тое. Сяджу і раздумваю. Успамінаю мінулыя дні, і цяперашні час.

Якое ж усё гэта адлеглае, непраўдападобнае! Пры камуне ў сялян не было каляровых тэлевізараў. Не было аўтамабіляў па вёсках. Не здымаліся відэакамерамі вясельныя абрады. Усё адбывалася традыцыйна, але як жа цудоўна.

Памятаю вяселле ў Курашаве. Жаніўся Вася Нікалаюк. Я тады з кінаперасоўкай ездзіў. Папрасіў ён і мяне, як свайго добрага сябра. Гулялі мы вяселле тры дні — суботу, нядзелю і панядзелак. З караваем і прыданнем. А пасля былі „пераэвы” ў чацвер у маладой і ў суботу ў маладога.

Сонечны майскі дзень. Сады квітнеюць, а мы за сталамі поўнымі яды і напіткаў. Вясковы музыкант на гармоніку іграў у садочку, а барабаншчык памагаў яму.

Не ведалі тады людзі аркестраў. На шлюб ехалі ў суседнія Рэпіскі не на аўтамабілях, а на фурманках. Каля дзесяці падводаў было, бо гасцей шмат спрасілі і амаль усе прыйшлі. Цяперашняе вяселле многім розніцца ад даўнейшага абраду, за выключэннем таго, што маладая ў вэлюме вянчасцца. Больш нічога!

Хаця сяляне жылі ў недастатку, аднак было весялей і адчувалі яны сябе больш шчаслівымі. Чужы чалавек братам заставаўся. Не было столькі подласці. Суседзі ўзаемна разумеліся. Адзін другога ў гасціну запрашаў, памагалі сабе ўзаемна, як у сапраўднай камуне быць павінна.

А як маладым жылося?

Былі сапраўднымі каваламі свайго лёсу. Работы ўдосталь было. Вясковая моладзь пакідала гаспадарку і ўцякала ў горад. Нават „Ніва” вяла дыскусію на тэму: чаму моладзь уцякае з вёсак. А тым, што на гаспадарцы заставаліся, не сумавалася.

Канстатую гэта на аснове ўласнага вопыту. Памятаю сваю першую пасаду. У 1959 годзе прымаўся я ў штатныя працаўнікі Галоўнага праўлення БГКТ (адказны за культурна-асветную дзейнасць на Гайнаўшчыне). Як інструктару, прыходзілася многа падарожнічаць па нашых вёсках. Арганізаваць гурткі Таварыства і выязджаць з канцэртамі вясковых самадзейнікаў, арганізаваць аўтарскія сустрэчы з „белавежцамі”.

Яшчэ зараз вырысоўваецца перад вачыма вобраз сялянскага сына з Мора, вядомага ўсім паэта Віктара Шведа, які падпісвае свае паэтычныя зборнікі вучням Пачатковай школы ў Чаромсе, маладым у Кузаве ці Навасадах. У тым часе найбуйней квітнела культурная дзейнасць у вёсках Махнатае, Навасады, Ласінка, Арэшкава, Кузава і многіх іншых мясцінах. Колькі ж канцэртаў далі самадзейнікі ў сваіх вёсках і наваколлі? Калі скажу, што ўсё трэба было сумясціць з абавязкамі ў гаспадарцы ці на дзяржаўнай пасадзе, дык можна ўявіць, якая самаахвярнасць была ў маладых да культурна-асветнай і грамадскай працы.

Дзе ж яны цяпер, блізкія спадарожнікі маёй маладосці, самадзейнікі з Махнатага ці Навасадаў, Ласінкі ці Арэшкава? Напэўна абзавяліся яны сем'ямі і, так як я, у кожную суботу чакаюць сваіх дзяцей з унукамі, каб правесці некалькі цудоўных хвілін, успомніць нялёгкае, але так прыгожае мінулае.

Самых сонечных дзён, радасці ў жыцці жадае Вам дарагія сябры

**Уладзімір Сідарук**

# Новыя вершы

### Роздум

Уплывае час нам хуткацечны,
З нас ніхто тут на зямлі не вечны.
Прыбывае нам жыцця гадоў,
Убывае хтосьці нам з радоў.

І штораз часцей ужо кагосьці
З блізкіх пакідаем на пагосце.
Ведаем, надыдзе такі час,
Што пакінуць там таксама нас.

Хочацца на свеце нам гасцінным
Заслужыць на добрыя ўспаміны.
Выпадковым каб не быць нам тут,
Калі свой пакінем родны кут.

### Наш горад

Горад наш над рэчкай Бялкай,
Хваліце нас твой рост небывалы.
Ты расцвітаеш з уздымам палкім,
Павырасталі наўкол кварталы.

Ты хрысціянскіх святыняў поўны,
Купалаў стройных, спічастых вежаў.
Ты і касцельны, ты і царкоўны,
Ты нам адзіны, да нас належыш.

Малой айчыны горад сталічны
Лучыць усіх жыхароў сваіх сёння.
Іх спалучае герб сімвалічны,
Польскі Арол з беларускай Пагоняй.

Павінны жыць мы дружнай сям'ёю
Па-хрысціянску, з верай глыбокай
Ва ўсеагульнае шчасце людское
У нашым доме, у Беластоку.

**Віктар Швед**

# Беларусь — Польшча — Украіна

Пад канец мая ў Варшаве адбылася канферэнцыя „Беларусь — Польшча — Украіна. Бяспечны рэгіён у бяспечнай Еўропе". Канферэнцыю арганізавала Еўра-Атлантычная польская пазаўрадавая арганізацыя, якая стараецца садзейнічаць уступленню Польшчы ў НАТО. Узначальваюць яе Тадэуш Мазавецкі і Януш Анышкевіч.

У канферэнцыі прымалі ўдзел шматлікія польскія палітыкі і палітолагі. На жаль, не з'явіўся ніхто ад урадавай кааліцыі. Затое моцныя дэлегацыі прыслалі Украіна і Беларусь.

На мой погляд, палітычныя абставіны дыскусіі трапна акрэсліў сябра ЕАА Генрык Шляйфер. Ён сцвердзіў, што можна бясклапотна даваць сабе абяцанні і падкрэсліваць, што Беларусь, Польшча і Украіна ўтраіх становяць аб сваёй бяспецы. Тым не менш усе тры краіны рухаюцца, як акцёры са спутанымі нагамі на сцэне. Ніводная з краін не гатова пайсці так далёка, каб акрэсліць умовы супрацоўніцтва. Чаму? Паколькі ніводнае з асноўных пытанняў пра кшталт бяспекі не дачакалася адказу. Колькасць сумненняў такая, што ніводная эліта не рызыкне прыняць рашэнні. Не з'явіцца канцэпцыя рэгіянальнай бяспекі, бо гэта зачыніць шлях у вышэйшыя структуры. Вырашэнне ўваходу Польшчы ў НАТО ачысціць поле. Развяжа рукі польскім элітам, бо здыме чыннік няяснасці.

Праблема наступстваў уступлення Польшчы ў НАТО і здамінавала ўсе нарады.

Магчымасць уступлення Польшчы ў НАТО не выклікала большых засцярог з боку ўкраінцаў. Усё-такі яны адзначылі, што ў выпадку ўвядзення на тэрыторыю Польшчы ядзернай зброі, Украіна будзе прымушана перадумаць сваё ранейшае адрачэнне ад гэтай зброі.

Больш засцярог меў беларускі бок. Сяргей Посахаў, блізкі дарадчык прэзідэнта Лукашэнкі, пытаўся пра міжнародныя гарантыі для Беларусі. Наогул, сцвердзіў, праблема пашырэння НАТО выклікае ўражанне Мюнхена — вялікія дзяржавы ўсё рашаюць без нашага ўдзелу. Усё-такі намеснік міністра замежных спраў Рэспублікі Беларусь Іван Антановіч падкрэсліў, што Беларусь успрымае ахвоту Польшчы ўступіць у НАТО як fait d'accompli. Магчымая перамога Зюганава на выбарах у Расіі толькі паскорыць здзяйсненне гэтага факта. Але тады ў нашым рэгіёне ўзнікне біпалярная сістэма. У сувязі з тым падкрэсліў, што ўсё-такі Расія не ствараe цяпер пагрозы для суседзяў, толькі для самой сябе.

Гэты абзац з выступлення міністра Антановіча пракаментаваў сябра ЕАА Яраслаў Хабера. Паводле яго, гэта Беларусь становіцца пагрозай для самой сябе. Адтуль і ўзялася інтэрвенцыя Ельцына ў справе зняволеных сяброў БНФ.

Прысутны на нарадах старшыня БНФ Зянон Пазьняк сцвердзіў, што Фронт раней быў за нейтралітэтам Беларусі, але цяпер за ўступленне Беларусі ў НАТО. На яго думку, аб ніякай бяспецы не даводзіцца гаварыць, калі ў Беларусі няма законнасці і дэмакратыі.

Аб беззаконнасці ў Беларусі гаварыў таксама прадстаўнік парламенцкай апазіцыі Станіслаў Багданкевіч. Паводле яго, дзеля вяртання свабоды сродкаў інфармацыі патрэбная дапамога суседзяў.

Пытанне свабоды рашучым словам закрануў Яраслаў Гузы. Ён падкрэсліў, што палякі з апазіцыйнага асяроддзя будуць пратэставаць супраць парушэння правоў чалавека ў Беларусі, бо для іх гэта справа не палітыкі, а толькі маралі.

Да вострых слоўных сутыкненняў прыходзіла асаблівa між беларусамі, пасля выступлення З. Пазьняка. Тым не менш усе беларусы не толькі селі плячо ў плячо за адным сталом, але і вытрывалі за ім да канца. Арганізатары палічылі гэта сваім поспехам. Думаю — слушна.

Як аднагалосна адзначалі ўсе ўдзельнікі, на канферэнцыі першы раз беларусы, палякі і ўкраінцы дыскутавалі пра сваю бяспеку без удзелу расіян. Тым не менш дух Расіі ўвесь час быў прысутны. Усе чакаюць вынікаў выбараў у Расіі.

Поживём — увидим.

**Алег Латышонак**



*Сяргей Посахаў (злева) і Зянон Пазьняк ўбяспечнай адлеглас і, але за адным сталом.*

# Пазьняк

**28 мая г.г. па запрашэнню Беларускага саюза ў Польшчы прыехаў у Беласток старшыня Беларускага народнага фронту „Адраджэнне" Зянон ПАЗЬНЯК. На праграму яго візіту склаліся сустрэчы з дзеячамі Беларускага саюза, гарадскімі ўладамі, журналістамі, прафсаюзнымі дзеячамі, паслaмі ды жыхарамі Беластока. Увесь гэты час старшыня БНФ прысвяціў пашырэнню інфармацыі пра Беларусь і працэсы, якія ў ёй праходзяць. Візіт трываў два дні.**

— Уява заходняй палітычнай эліты пра Беларусь, — тлумачыў у час усіх сваіх сустрэч З. Пазьняк, — ствараецца расейскай дыпламатыяй і спецыяльнымі службамі. Тая эліта даўно ўжо „здала Беларусь". Гэта апошнія падзеі — дэманстрацыі ў Менску, арышты дзеячаў Беларускага народнага фронту, іхняя галадоўка ў турме, высветлілі, што ўява гэтая моцна разыходзіцца з фактычным станам.

28 мая, зараз пасля прыезду ў Беласток, старшыня БНФ сустрэўся з дзеячамі Беларускага саюза. У час гэтай сустрэчы З. Пазьняк знаёміў прысутных з ходам сваіх перамоў з польскімі палітыкамі ды цікавіўся таксама сітуацыяй беларускай меншасці на Беласточчыне. 29 мая З. Пазьняк сустрэўся з беластоцкімі журналістамі. Знаёміў ён іх з беларускай рэальнасцю ў шырокім іх дыяпазоне — ад агульнапалітычных пытанняў па бытавыя. Агульны іх сэнс зводзіўся да таго, што дэмакратыя ў Беларусі запынілася, не праводзіцца рэформа эканомікі, грамадства пазбаўлена інфармацыі. Прэса і тэлебачанне цалкам падпарадкаваны прэзідэнту. Тыя газеты, якія вырашылі ўсё-такі інфармаваць грамадства — вымушаны друкавацца па-за межамі Беларусі і трапляюць у яе кантрабандай. Кантроль сродкаў інфармацыі дайшоў, паводле З. Пазьняка, да той ступені, што прэзідэнт А. Лукашэнка асабіста ўдзельнічае ва ўкладанні праграмы для тэлебачання.

— Прэзідэнт спрабаваў нават, — сказаў З. Пазьняк, — ваяваць з расейскім тэлебачаннем, бо яно ўсё ж пра нешта яшчэ інфармуе. У беларускім, акрамя прэзідэнта і яго каманды, ніхто не можа выступіць.

Ёсць аднак, на думку старшыні БНФ, у гэтым агульным чорным плане і светлы праменьчык. Жорсткае здушванне мірных шэсцяў, свабоды, непрыкрытае знішчэнне дзяржаўнасці і зганьбаванне мовы прывяло да таго, што каштоўнасці гэтыя сталі неабыякавымі для маладога пакалення ў Беларусі. Гэта перад усім моладзь выйшла на вуліцы Менска, каб прадэманстраваць думку наконт свайго лёсу і будучыні. Моладзь схілілася ў бок БНФ „Адраджэнне".

Ацэньваючы вынікі сваёй дзейнасці ў Польшчы, З. Пазьняк сцвердзіў, што знаходзіць ён тут зразуменне — у польскіх палітычных колах выразны зрух, прабіваецца погляд, што для Польшчы найлепш суседаваць з незалежнай Беларуссю.

29 мая З. Пазьняк сустрэўся яшчэ са старшынёю беластоцкага рэгіёна „Салідарнасці". Пасля сустрэчы Ю. Мазалеўскі выказаў гатоўнасць арганізаваць у Беластоку асяродак гуманітарнай дапамогі грамадзянам Беларусі. На яго думку, ініцыятыву гэтую жыва падтрымаюць жыхары горада і рэгіёна. Гэтага самага дня,

*(працяг на стар. 8)*

# „Не досыць, што мурын..."

*(працяг са стар. 1)*

Мала табе, што ты чорны, то яшчэ трэба быць і жыдам?

Не досыць, што чалавеку цяжка, бо ён беларус, то яшчэ яму трэба з апазіцыяй цягацца. А цяжкасці, такія ці іншыя былі. Ёсць у Польшчы легенда, што пры камуністах кіравалі дзяржавай беларусы. Зерне праўды тут толькі такое, што хапала беларусаў у камітэце. Але ж гэта ніякая не праўда! І чаму ў рамках быццам бы панавання беларусаў яны самі падвяргаліся такой паланізацыі?

***— Маё асяроддзе мае жаль за 1989 год, за спозненыя жэсты „Салідарнасці". Перакладзены на беларускую мову зварот Валэнсы паявіўся ўжо перад самымі выбарамі, калі вядома было, што на спіску Грамадзянскага камітэта не будзе беларуса.***

— Я хадзіў вакол гэтай справы, але трэба сказаць, што ўзяўся за яе запозна. Там ужо пастаўлены быў канкрэтны чалавек, гаспадар з гэтай зямлі. Не можна ж сказаць земляробу, каб ён ішоў на выбары ў чужой яму акрузе. Гэтая сітуацыя супала з застарэлым канфліктам, ну і нічога не атрымалася.

Украінца я прапхнуў, але ўзяўся за гэта раней, сыходзячы з таго, што украінцы расцярушаны, што ў нас з імі больш складаная гісторыя, ну, але былі ён выбраны ў Гажоўскім ваяводстве. Беларусы, як колькасна значныя і пражываючыя ў адным месцы, маюць шанц увесці пасла ў Сейм сваімі галасамі. Перашкаджаюць гэтаму толькі падзелы ў грамадскасці, але мне іх не асуджаць. Сярод палякаў тых падзелаў, што страх.

***— Ці Сеймавая Камісія нацыянальных меншасцей, гэта працяг тае, якая дзейнічала пры Грамадзянскім камітэце?***

— Так казаць не можна. У яе ўваходзяць прадстаўнікі ўсіх партый, прысутных у парламенце. Але хачу падкрэсліць, што нягледзячы на гэта, няма ў ёй канфліктаў, пастановы прымаюцца аднадушна і без замаруджвання. Гэта адна з лепшых сеймавых камісій.

***— Якія кампетэнцыі Камісіі і эфекты ейнай працы?***

— Сеймавая камісія, гэта дарадчы орган Сейма. З гэтага пункту гледжання, пра сапраўдны поспех зможам заявіць, калі будзе прыняты Закон аб нацыянальных меншасцях. Тым не менш, пастаянна займаемся справамі школ, падручнікаў, кніжак, культуры. Даем падтрымку меншасцям. Апошнім часам удалося выцягнуць з бюджэтнай камісіі больш грошай на меншасці. Я маю ўражанне, што камісія ўплывае на палітыку дзяржавы ў адносінах да меншасцей, робіць яе больш адкрытай.

***— Вы ўспомнілі падрыхтоўку закону аб нацыянальных меншасцях. Ці такі закон наогул павінен быць? А можа хопіць агульных правоў чалавека і грамадзяніна?***

— Так лічаць на захадзе Еўропы. Можна было б гэта прызнаць, але, як мы ўжо гаварылі, ёсць яшчэ многа набалелых канфліктаў і такі закон дапамагаў бы іх развязваць. Прыняццё закону здаецца сэнсоўнае, патрэбнае і карыснае. Толькі не можа быць гэта групавы закон, а грамадзянскі, мае датычыць культурнай супольнасці, але быць правам для кожнага грамадзяніна паасобку.

***— А што трэба змяніць у сістэме выканаўчай улады? Ці, можа, Камісія па справах культуры нацыянальных меншасцей гэта дастатковы орган і мяняць нічога не трэба?***

— Доўгі час мы стараемся апеку над нацыянальнымі меншасцямі паставіць на ўрадавым узроўні. Здаецца, гатовы ўжо праект — чакае толькі зацвярджэння Радай Міністраў — камісіі нацыянальных меншасцей, на чале з віцэ-прэм'ерам, у якую будуць уваходзіць прадстаўнікі зацікаўленых міністэрстваў. Мы, як камісія, выказваемся за прызначэннем упаўнаважанага ўрада па справах нацыянальных меншасцей.

***— Дзякуй за размову.***

Інтэрв'ю ўзяў
**Мікола Ваўранюк**

# Зямля ў тым месцы тры дні варушылася

*(працяг са стар. 1)*

ўжо радзіўся. Пашчасцілася так, — адзначае мой субяседнік.

— Ужо мы не раз для нашай „Нівы" гаварылі. І фатаграфавалі нас, — прывіталі мяне старэйшыя кабеты. Сярод іх і згаданая раней Яўгенія Шумская. Яна, як вясковая актывістка, спявачка з калектыву „Згодныя макі", расказвала пра апошнюю сустрэчу з прэм'ерміністрам Уладзімежам Цімашэвічам у Нараўцы.

— Я там адзначыла, што з такой *мэнчэнскай* вёскі паходжу, — гаварыла яна зацікаўленым жанчынам.

У чэрвені 1942 г. забілі яе бабку і дзеда. А яна, маці і бацька ў Хаеве пад Бранскам вайну перачакалі.

— Тата асталіся, бо паслухалі тых, што асцерагалі. Вечарам перад здарэннем хлопец прыйшоў і сказаў, каб уцякалі. З Райска быў. Тады на чыгунцы працаваў.

— Я нэ віноваты і мнё ніц нэ зробят, — адказвалі на яго перасцярогу вяскоўцы.

Бацька спадарыні Яўгеніі ўцёк тады. Але пазней людзі крыва глядзелі. Чаму ж астаўся ў жывых? У Хаеве, дзе жылі, тры разы па бацьку прыходзілі. Не ведае, хто хацеў яго смерці. Запамятала, што бацьку *бандытам* называлі.

— А тата, — уцірае слёзы жанчына, — мяне вучыў заўсёды: „Не кажы, Жэню, нікому, што ты з Райска. Бо жыцця не будзе".

— А нас, — гаворыць Люба Цішук, паказваючы на Вольгу Тымінскую, — прыкладамі на самаход загналі. З Бельска ў Прусію адправілі. Там у немца за парабкаў назначылі. Яшчэ як у Прусію ехалі, то пабачылі сваю вёску. **У Райску адны каміны і печы стаялі, моцны смурод пажару адчуваўся.** Цяжка тады было. Нават да радні напісаць не маглі, непісьменныя былі ўсе.

— Быццам учора тое было, — кажа Вольга Тымінская. У паветры павісае невыказная крыўда. Усе плачам.

— Пакуль вачэй не заплюшчыш, то не забудзеш, — дадае Люба Цішук.

**І цяпер бачу тое жахлівае відовішча**

Марыі Федарук ішоў тады сёмы год. Іхняя сядзіба непадалёк царквы знаходзілася. Бацька майстрам быў, хату на дзве паловы паставіў.

— Я сама ў пакоі спала, — успамінае спадарыня Федарук. Над раніцай пачула яна як нехта ў дзверы стукоча. Раптам у пакой ускочыў немец і сарваў з яе сонную коўдру.

— Віску я нарабіла тады, — памятае той жахлівы момант Марыя Федарук. — І бачу, што бацьку і дзеда ў адной бялізне з хаты выпіхаюць. Усіх нас пад царкву сагналі і прыказ далі чакаць.

Тым часам у солтыса, што насупраць царквы жыў, суд адбываўся. Доўга там доследы вяліся. Солтыс добры чалавек быў. Казаў, што людзі невінаватыя. Немцы яго пабілі і першага расстралялі. Казалі людзі, што немцы хацелі толькі адзін канец вёскі спаліць, гэты ад Плотыч. А ў вёсцы быў, казалі людзі, нямецкі ганец. Як здагадаўся, што толькі адну частку вёскі пакараюць, сказаў: „усе тут роўныя". Ці так было, ніхто не ведае, — задумоўваецца мая інфарматарка.

Марыя Федарук запамятала, як на расстрэл людзей выклікалі.

**— Людзі тады без розуму парабіліся. У Чэрнякоў пайшоў бацька. То іхняя маці кінула немаўля і за мужам пабегла.** Забілі яе тады, бо вуліцу на *той бок* перайшла. ***З таго боку*** **ўжо не вярталіся жывымі.**

Дзіця гэтае людзі бяздзетныя з Храбалоў пазней узялі і як сваё гадавалі.

На пляцы, дзе трымалі раянаў, добра было чуваць стрэлы.

— Пазней, — успамінае мая субяседніца,— маладых на самаход грузілі. А нам прыказалі за гадзіну спакавацца і на фурманцы чакаць. Тады не ўсе кабеты каня запрэгчы ўмелі. То яшчэ мой тата і дзед бегалі па вёсцы і дапамагалі. Людзі многа непатрэбшчыны бралі. Мама мая люстра вялікае на воз вынесла, а я пазней села там і яго пакрышыла. Як рушыў *абоз* жахлівае відовішча было. Бабы вішчалі, крычалі, плакалі дзеці і раўла жывёла.

*Абоз* накіравалі ў кірунку Бельска праз Гацькі. Калі даехалі на ўзгорак, іх немцы спынілі. Загадалі азірнуцца.

— І гэтага ніколі не забуду. І цяпер тое бачу! — уцірае слёзы Марыя Федарук; страшны прывід таго дня яшчэ раз здзекваецца над яе памяццю. — У бок ад нас гарэў Райск. Я адтуль убачыла сваю клуню. Гарэла яна неяк дзіка, чатыры чырвоныя стаўбы агню палалі.

На гэтым не кончыліся пакуты раянаў. Пазней, як апынуліся за Бельскам, людзі зарыентаваліся, што накіроўваюць іх у Пілікаўскі лес. А ведалі ўжо, што там людзей забіваюць. І калі сярод лесу немцы загадалі спыніць коней, зноў падняўся віск і крык. Людзі не верылі, што дзеля адпачынку іх спынілі. Калі рушылі зноў у дарогу, Марыя Федарук ужо не памятае. Яе і сям'ю пасялілі непадалёк вёскі Быстрэ. Пры лесе хатка пустая стаяла. На ўсё жыццё запамяталася спадарыні Федарук чалавечая спагада. Прыйшлі тады да іх людзі з Быстрага і прынеслі каву з малаком і хлеб.

— Той хлеб і кава былі такія смачныя, што па сённяшні дзень смак гэты чую.

Сям'я Марыі Федарук напрыканцы вайны нелегальна вярнулася ў Храбалы. Бацька адтуль родам быў. Ступіць на раенскую зямлю тады пагражала пакараннем смерцю. У Райск пераехалі ў 1947 годзе. Некаторыя на іх крыва глядзелі, што ўся сям'я жывая асталася.

— Што і дзівавацца — разумее іх становішча спадарыня Федарук. — Адны ж удавіцы і сіроты вярнуліся. На голы камень прыехалі. У зямлянках найперш жылі. А мы ўжо і хату сваю з Храбалоў перавезлі. І двух мужчын на гаспадарцы працавала.

На дзеда *данос* напісалі. Паўгода ў бельскім арышце з-за нейкай ананімкі прасядзеў. Баба з таго ўсяго на сэрца захварэла і памерла.

— Дзеду, тады ў 1942 г. хіба пашчасцілася, — паясняе мая субяседніца. Пісьменны і начытаны быў. З бацюшкам Сцяпанам сябраваў. Часта пра Святое Пісанне разважалі. Марыя Федарук памятае гэта, дзед заўсёды браў яе з сабою. За няньку быў. У тую нядзелю, як немца застрэлілі, дзед з бацюшкам адразу туды пабеглі. Пабачыўшы няшчасце, з ратункам паспяшалі. Саломы пад параненых назносілі. Пазней, як дапытвалі бацюшку, той згануў пра дзеда. Таму, відаць, нашых не расстралялі.

**За што нас так пакрыўдзілі?**

— задумоўваюцца кабеты з Райска. Нявінных людзей, як нейкую жывіну пабілі. Асіроцілі дзяцей. Пакалечылі людзям душы, раскідалі іх родныя гнёзды. Быццам з-за немца, — здагадваюцца людзі. Тады перад трагічным аўторкам нямецкага купца пад Райскам забілі, непадалёк вёскі. Ля вясковага могільніка. Нейкія *бандыты* — гавораць пра віноўнікаў правакацыі. — Бо таго немца ў нас шанавалі. На гандаль па вёсках ездзіў. Смятану, яйкі, сыр, вясковае на *гарадскія* тавары мяняў. З сялянамі ветлівы быў.

У гэтую няшчасную нядзелю абстралялі яго самаход, забілі купца, паранілі жонку. Адно немаўля некранутае засталося. У Райску перакананыя, што дзякуючы таму дзіцяці дазволілі жыць іхнім дзеткам і маткам. Закон быў такі, — гавораць вяскоўцы. За аднаго немца ўся вёска адказвала. Усе гэта ведалі. А кажуць, партызаны купца застрэлілі? Хто яго ведае? Час такі быў, вайна.

**Ганна Кандрацюк**

*Фота аўтара*



*Сведкі раенскай трагедыі.*

# Атлас „Беларусы"

Пару тыдняў таму выйшаў з друку атлас, які паказвае дынаміку дэмаграфічных і этнаграфічных працэсаў у Беларусі ў апошнім стагоддзі. Выдалі яго Фонд фундаментальных даследаванняў Рэспублікі Беларусь і Беларускі Фонд Сораса, а рэдакцыйнымі працамі кіраваў нядаўна памерлы прафесар Спартак Польскі. Вонкавы выгляд атласа больш напамінае нейкі польскі штотыднёвік і гэта ёсць яго асноўная і адзіная загана. Гартаючы кожную старонку, штораз больш хочацца ставіць пытанні: чаму кніжку не выдалі ў цвёрдай вокладцы, чаму шытая яна дротам як нейкая брашура, чаму так высакаякасны прадукт інтэлектуальнай творчасці змешчаны ў такой неахайнай упакоўцы?

Атлас „Беларусы" паказвае фарміраванне беларускай дзяржаўнасці ў XX стагоддзі, рассяленне беларусаў у 1897, 1926, 1937, 1939, 1959, 1970, 1979, 1989 гадах, дынаміку колькасці насельніцтва, стан валодання беларускай мовай ў паасобных абласцях, раёнах і гарадах, натуральны рух насельніцтва, адукаванасць народаў Беларусі, рассяленне беларусаў у свеце, канфесійную структуру насельніцтва. Апошні раздзел атласа прысвечаны параўнанню тэрыторыі і колькасці насельніцтва Рэспублікі Беларусь з краінамі Еўропы. І так, напрыклад, на тэрыторыі паўтара раза большай Германіі жыве восем разы больш жыхароў, чым у Беларусі. Яшчэ больш песімістычна выглядае сітуацыя Рэспублікі, калі падобныя параўнанні зробім у адносінах да Вялікабрытаніі, Галандыі, Бельгіі, Швейцарыі.

У даваенны перыяд беларусы складалі 84,5% насельніцтва БССР, яўрэі — 6,5%, рускія — 4,7%. Пасля вайны на другім месцы апынуліся рускія. Кожны чарговы перапіс паказваў рост колькасці рускіх і спад удзелу беларусаў у агульнай структуры насельніцтва. Гэты рост асабліва адзначыўся ў абласных цэнтрах, вялікіх гарадах Рэспублікі. У Мінску, Гродне, Брэсце, Магілёве, Гомелі, Віцебску рускія складаюць больш за 20% насельніцтва. Паралельна з гэтым працэсам паменшваецца веданне беларускай мовы ў гарадскім асяроддзі.

Атлас паказвае таксама дынаміку ўзроўню адукацыі насельніцтва ў 1959—1989 гадах. Паказчыкі вышэйшай і сярэдняй адукацыі на 1000 чалавек найвышэйшыя былі сярод яўрэяў і рускіх, а найменшыя — сярод палякаў і беларусаў. Ад 1959 г. пастаянна расце працэнт беларусаў, якія сваёй роднай мовай лічаць рускую. Працэсы ў гэтым напрамку маланкава развіваюцца ў апошніх гадах у гарадах, асабліва ў Мінску і абласных цэнтрах. У мястэчках і вёсках прыгнятаючая большасць роднай мовай лічыць беларускую, нават тады, калі ёю не карыстаецца.

На тэрыторыі, якая сёння знаходзіцца ў межах Рэспублікі Беларусь, у 1913 г. жыло 6,9 мільёна людзей, у 1920 г. толькі 4,3 млн. У 1941 г. паводле сталінскай афіцыйнай статыстыкі ў Беларусі жыло 9,1 млн. жыхароў, а ў 1950 — толькі 7,7 млн. Ад вайны да 1993 г. колькасць насельніцтва Беларусі пастаянна ўзрастала, але ўжо чацвёрты год як крывая лінія дэмаграфічнага росту ідзе ў ніз. Гэтым разам без ніякай вайны.

Вельмі цікава выглядае карта з нанесенымі пунктамі размеркавання храмаў усялякіх веравызнанняў. Заходняя Беларусь вельмі выразна адрозніваецца ад усходняй. Яе абмінула самае жорсткае камуністычнае шаленства трыццатых гадоў.

У атласе ёсць таксама карта прысвечаная беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы ў 1993 г. З увагі на стан нацыянальнай свядомасці беларускага насельніцтва на Беласточчыне, карта гэтая паказвае больш колькасць вернікаў праваслаўя на гэтай тэрыторыі, чым беларусаў. Аднак упершыню ў навуковай літаратуры зафіксавана так дакладная нацыянальная структура Беласточчыны. Здзіўляе гэта асабліва таму, што такіх падлікаў не здолелі зрабіць да гэтай пары польскія вучоныя.

**Яўген Міраневіч**

*Беларусы — этнаграфія, дэмаграфія, дыяспара, канфесіі*, рэд. С. Польскі, Мінск 1996.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ





*Від крыжа спераду* ☝.

☜ *Прыезджыя дзеці гасцявалі ў сваіх бельскіх сяброў.*

# IV Сустрэчы „Зоркі”

**Бельск-Падляшскі 1–2.06.1996**

**Фотарэпартаж Ганны КАНДРАЦЮК**



*Адваротны бок крыжа з выявамі беларускіх святых.*



*Народны ўзор прыдумала пані Аля.*



*Намаляваць іконку няпростая справа.*



*Трэба падабраць адпаведныя колеры.*



*Дзецям дапамагалі спецыялісты.*

# Вершы Віктара Шведа

### Ці ты лётаў самалётам?

— Ці ты лётаў самалётам? —
Запыталі ў школе Фому.
— Адкажу я вам з ахвотай:
Лётаў, лётаў я, вядома.

— А ці ты без страху лётаў?
— Страх пры першым, без сакрэту.
Я здалёку самалёты
Абыходжу ўжо адгэтуль.

### Лена горбіцца страшэнна

Са сваёй дачушкай, Ленай,
Маці ў блізкі горад едзе.
Лена горбіцца страшэнна,
Лекар хай яе агледзіць.

Маці дачаньцы тлумачыць:
— Стань жа проста, дарагая.
Хай пан доктар добра ўбачыць
Як страшэнна ты крывая.

### Не веру ў канец свету

На ўроку геаграфіі Міхась меў спробу
Пазнаць бліжэй прыгожы школьны
глобус.
Мацерыкі, аддзельныя краіны
І акіяны, горы і даліны.

Хлапчук з настроем радасным,
прыўзнятым,
Вярнуўся па занятках зноў дахаты.
Ён адазваўся да бабулі гэтак:
— Цяпер я ўжо не веру ў канец свету.

# Вясёлка

Вясёлка ззяе і пяе.
Яна дугой залазіць у акіяны,
азёры, рэкі і ваду з іх п’е.
Як да знямогі нап’ецца,
ліўнем-дажджом пральецца.
Напоіць лясы, сады, лугі, агароды,
дубровы, палі, імшары...
Як з гэтым управіцца,
то зноў па ваду адправіцца.

**Сымон Шаўцоў,**
**Аўстралія**

*„Як адпачываюць і гуляюць дарослыя”* — малюнак Юліты Гаўрылюк з ПШ у Чыжах.

# Крыжаванка № 24

*(апрацаваў Данель Банькоўскі з кл. VI „а” ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім)*

ласунак вавёркі
дрэва Ягайлы
у ім пішам
з яе пячэм хлеб
найпрыгажэйшы месяц года
любяць іх слухаць дзеці
яе свята адзначаем 26 мая
сухая трава
могуць быць вясёлыя або сумныя
цвітуць у жыце
прылятаюць вясной
трэба даклеіць да адказаў крыжаванкі
шукаем адказаў на іх

Разгадайце словы і ўпішыце іх у клеткі. Атрыманы лозунг дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванкі н-р 18:**

**Польска-беларуская крыжаванка:** атам, рак, бал, суніца, хорам, мара, абух, аканом, ліра, цар, гама.

**Лозунг са школьнай крыжаванкі:** ВІКТАР ШВЕД

Узнагароды — альбомы для фатаздымкаў — выйгралі: **Давід Сліўка** і **Анэта Таранта** з ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім, **Каміля Лабузінская** з ПШ у Кленіках, **Ігар Дзікевіч** і **Іаанна Германовіч** з ПШ у Махнатым і **Эмілія Сухадола** з ПШ у Нарве.

**Віншуем!**

**Мікола Гайдук**

# Аб нашым мінулым

### 8. У Тураўскім княстве

Кіеўскі князь Уладзімір, захапіўшы Тураўскае княства і выгубіўшы княжацкі род Тура, устанавіў у **988** годзе князем тут свайго сына Святаполка. Паправіўшыся пасля паражэння, тураўцы пачалі імкнуцца да вызвалення з-пад улады Кіева. Яны схілілі на свой бок Святаполка. Князь, заручыўшыся падтрымкай свайго цесця, караля польскага Баляслава Храбрага, і баявітых качэўнікаў-печанегаў, **абвявіў у 1012 г. незалежнасць Тураўскага княства ад кіеўскага князя**. Аднак дружыны Уладзіміра скарылі тураўцаў, а Святаполка з жонкаю вывелі ў Кіеў і замкнулі ў вязніцы. Са зняволення іх выпусцілі ў 1015 г. кіяўляне пасля смерці князя Уладзіміра.

Святаполк заняў вялікакняжацкі пасад у Кіеве і аднachасна ўтрымаў за сабою тураўскае княжанне. Панаванне яго не было доўгім. Ён западозрыў сваіх братоў-князёў у імкненні скінуць яго з кіеўскага пасада. Пачаў з імі вайну. Нягледзячы на дапамогу Баляслава Храбрага, загінуў ён у барацьбе супроць князя Яраслава Мудрага.

Пры князі кіеўскім Яраславе Мудрым Тураўскае княства падлягала яго ўладзе, але ў канцы жыцця ён усе свае ўладанні раздаў сынам. Тады Тураўскае княства дасталася князю Ізяславу. Пасля смерці Яраслава ў 1054 г. Ізяслаў стаў княжыць у Кіеве. Па прыкладу дзядзькі і бацькі затрымаў пры сабе тураўскае княжанне. Гэта па яго загаду дружыны тураўскіх вояў разам з рускімі дружынамі вымушаны былі ваяваць супраць палачан. Ізяслаў вылучаўся задзірлівасцю і няўдалым праўленнем. Яго два разы скідалі з кіеўскага пасада, і за дапамогай ён кожны раз уцякаў у Польшчу. Загінуў у братазабойчай барацьбе. Пры ім многа тураўцаў страціла жыццё, княства было абрабавана і разбурана чужынцамі.

Пасля смерці Ізяслава ў 1078 г. тураўскім князем стаў яго сын Яраполк. Гэта быў смелы і мудры князь, але ў хуткім часе загінуў ад забойцаў, насланых валынскімі князямі. Уладу над Тураўскім княствам пераняў яго брат Святаполк. Ён клапаціўся пра ўмацаванне Тураўскага княства, аднак хутка пайшоў княжыць у Кіеў і затрымаў пры сабе ўладу над тураўцамі.

Святаполк вылучаўся адукаванасцю, беражлівасцю, якая часам станавілася скнарнасцю, але ўмела пакіраваў дзяржавай, у саюзе з іншымі князямі ўдала абараняў яе ад нашэсцяў качэўнікаў.

**Пасля смерці ў 1113 г. князя Святаполка Тураўскае княства на значны час цалкам страціла сваю самастойнасць.**

У Тураўскім княстве ў X-XI стагоддзях, як паказваюць археалагічныя знаходкі, багата было рамеснікаў. Яны выраблялі розныя рэчы з металаў, косці, гліны, дрэва. Купцы гандлявалі з блізкімі і далёкімі краінамі: з Польшчай, Венгрыяй, Нямеччынай, Візантыяй і іншымі.

Тады пашыралася і мацнела хрысціянства — паўсюдна ў гарадах будаваліся цэрквы. Яны пераважна былі з дрэва, але ўзводзіліся і мураваныя святыні. На тураўскім гарадзішчы археолагі адкрылі фундамент і ніжнія часткі сцен збудаванага з цэглы вялікага праваслаўнага сабора. Паводле падання князь Уладзімір пабудаваў каля Пінска Лешчынскі манастыр. Жонка князя Святаполка, княгіня Варвара, пабудавала ў Тураве Варварынскі жаночы манастыр. Пры тураўскай епіскопіі дзейнічаў мужчынскі манастыр. У іншых мясцовасцях, такіх як Бярэсце (Брэст) ці Драгічын-на-Бузе таксама былі храмы і манастыры. У Бельску-Падляшскім праваслаўная царква была пабудавана каля 1040 г.

У манастырах манахі перапісвалі і здобілі кнігі, складалі хронікі, пісалі іконы (абразы малююць мастакі, а іконы пішуць іканапісцы), займаліся залатарствам і іншымі мастацтвамі. Пры кожным манастыры была школа, у якой вучылі дзяцей рэлігіі, чытанню, пісьму, лічэнню, набожным спевам.

У адным з манастыроў у Тураўскім княстве ў XI стагоддзі было па-мастацку перапісана і аздоблена славутае **Тураўскае евангелле**. Яно — самая старажытная кніга з дагэтуль знойдзеных на беларускіх землях. У тым жа часе два невядомыя мастакі намалявалі некалькі **мініяцюр** (маленькіх абразкоў). На адной з іх паказана сям’я князя тураўскага Яраполка, на другой — каранаванне Яраполка на княжанне. На іншых прадстаўлены постаці святых. На мініяцюрах відаць прыгожую і багатую вопратку княжацкай сям’і, годныя яе паводзіны.

**Практыкаванні**

*1. Калі ў Тураўскім княстве пачаў панаваць князь Святаполк і пра што ён абвявіў у 1012 годзе?*
*2. Які быў лёс Святаполка?*
*3. Якім быў князь Ізяслаў, а якімі князямі былі браты Яраполк і Святаполк?*
*4. На што паказваюць знаходкі археолагаў на тэрыторыі былога Тураўскага княства?*
*5. Чаму пра Тураўскае евангелле гавbooрыцца — „славутае”?*

**Дапоўні сказы і запішы іх у сшытку.**

Князь ... заручыўся дапамогай польскага караля ... ... і ... ды ў ... годзе абвявіў незалежнасць Тураўскага княства ад ... . Яраполк быў ... і ... князем, але хутка загінуў з рук забойцаў. Пасля смерці ў ... годзе князя ... Тураўскае княства ... на пэўны час ... .

**Ад рэдакцыі:** Чарговыя артыкулы з цыкла „Аб нашым мінулым” будзем друкаваць у новым 1996/1997 навучальным годзе.

# Я і мая сяброўка

Кожны чалавек мае сябра. Сяброўства можна завязаць ужо ў прадшколлі, у школе, а нават у дарослым жыцці. Сябрамі могуць быць не толькі людзі, але жывёлы і кніжкі. На шчасце, ёсць у мяне сапраўдная сяброўка. Гэта Ася. Яна жыве ў маім блёку. Ася вучыцца ў восьмым класе нашай школы. У школе бачымся мімаходам, таму сустракаемся з Асяй кожны дзень у яе або ў мяне дома. Расказваем сабе пра ўсё, што здарылася ў школе, пра поспехі, а таксама і пра няўдачы. Маем да сябе вялікае давер’е. Часта разам ходзім у бібліятэку. Выбіраем усялякія кніжкі, чытаем, а пасля аб іх размаўляем. Ася старэйшая за мяне і мае больш ведаў. Паводле мяне, Ася — вельмі разумная і разважлівая. Памагае мне рашаць мае праблемы.

Я вельмі цешуся, што ў нашым блёку жыве такая дзяўчына, як Ася. Я мела шчасце, што ад самога пачатку пасябравала з ёй. Думаю, што наша сяброўства будзе працягвацца доўгія гады.

**Моніка Мельнік, V „е” кл.**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**



Талон „Зоркі” № 24
16.06.1996

# З дзённікаў С. Яновіча

**1995 — 06 — 02.**

Дзень прамінуў на бытавых турботах і на карэспандэнцыі. У трэцяй *Нашай Ніве* прыгожы тэкст Арлова *Нумар з відам на Градчаны* (пачаў чытаць учора ноччу пад майскія грымоты).

У нядзелю — 28 V — на літаратурнай канферэнцыі ў беластоцкім універсітэце, прысвечанай 55-гадоваму юбілею Яся Чыквіна. Досыць нуднай, не надта патрэбнай, падуманай ім чамусьці наспех (на 55-ці...?). Маладікай, от, таварыскай, застольнай. (...)

**1995 — 06 — 11.**

Восьмага — на міжнародным кніжным кірмашы ў Беластоку (з Я. Чыквіным і Шведам). Былі расейцы. Літоўцы зусім не паявіліся. З Беларусі — Баравік з Гродна, дыр. абл. кн. гандлю (спрабавалі мы зрабіць з ім гешэфт, але трэба міждзяржаўных узгадненняў, вось). Тыповы савет.

Сваіх кніжак прадаў я к. 10-ці, пераважна *Лістоўе* і *Terra incognita*... Смешна!

Гайдук па мужыцку заеўся на мяне, вульгарыць на ўзроўні хлява ў сённяшняй *Ніве*. (...)

*Кур'ер паранны* ад 8-га ўчыніў сенсацыю майму сыну Яраславу, апісаўшы ў выглядзе галоўнай весткі дня ягоныя шматгадовыя захады ў абарону беларускіх назваў вёсак і ўрочышчаў Беластоцкага краю. Расінскі? — ні *за*, ні *супроць*. Вынікаў, відома, не будзе, але справа застанецца.

Чыквін даслаў адбітак тэксту майго адказу на анкету *„Крыніцы"*, апубл. ужо ў лістападаўскім н-ры (прывёз з Менску). Вось так (не)дбаюць пра сваіх супрацоўнікаў, Разанаў etc. І чатыры долары ЗША ганарару, sic!

Стамляе гэты шум вакол Яновічаў, не дае засяродзіцца, хоць і не ў Беластоку я ўжо.

**1995 — 06 — 18.**

(...) Пазнаёміўся з Міхаілам Слямнёвым як свежаназначаным Генеральным консулам (д-р філасофіі). Выдаваўся ён мне глыбокім чалавекам, не заядлым. Падкінуў я яму крыху польскіх публікацый на беларускія тэмы.

У той жа дзень, у адвячорак, зваліўся ў мой крынскі дом чарговы рэйд беларускай моладзі. Экскурсія па меставым ваколлі (Шыбеніца!); агнішча над залівам, пад дварам. Не на маю псіхіку гэта ўсё цяпер: іхнае польскамоўе, схільнасць пашумець, турысцкі вэрхал (сёння толькі адаспаўся).

**1995 — 07 — 28.**

Шум у газетах. *Справа Яновіча* — піша *Ніва*. Гэта Яраслау так дакучыў гмінам, якія рукамі-нагамі адбіваюцца ад яго прапановаў вярнуць гістарычныя імёны вёскам. Плебісцыт! Прынамсі ўсенародная ясанасць: беларусы супроць публічнай беларускасці.

**1995 — 08 — 15.**

Два дні — Вайцех і Софія Вазьнякі з Астралэнкі (узіму мы былі ў іх). Ён выдае перыядычны альманах *Pracownia* (трэ нешта перакласці з яго). Турысцкі візіт; яны летам раз'язджаюць, маладыя ўсё ж яшчэ. Яксьці нецікава мне з імі.

Заехаў быў неяк да мяне сюды (6-га?) Чэсь Сэнюх з В-вы: Беларускі ПЭН-цэнтр склікае на 31-га і да 4 IX вялікі сход у абарону свабоды слова, але, як гэта саветы, хаатычна і без акуратнага матэрыяльнага забеспячэння. Калі б не подпіс Быкава на запрашэнні, не думаў бы рыпацца. (...)

**1995 — 08 — 20.**

Раптоўна памёр Барыс Сачанка (равеснік мой). (...)

**1995 — 08 — 28.**

(...) Сёння наведалася да мяне дзевяціасабовая група маладых гісторыкаў з Беларусі, запрошаных у Польшчу фондам Баторыя (гідам ім Ю. Каліна). Спадзяваўся я на дыскусію, але яны пажадалі, каб гэта я ўсё гаварыў, маналагізаваў. Утомна сустракацца з саветамі. Склалася ў мяне такое ўражанне, што гэтыя гісторыкі не надта цямілі, да каго іх прывезлі... Гэта быў ці не першы іх дзень у польскім замежжы?

Што мне было рабіць? Пачаставаў чаем, сёе-тое распавёў, і нават даў ім сваіх апошніх кніжак.

**1995 — 09 — 11.**

На II-ім Кангрэсе Беларускага ПЭН-цэнтру (31.08 — 04.09, „Ісклач"). На працягу трох дзён пасяджэнняў — шэсцьдзесят два даклады і выступленні! Катастрофа псіхіцы!!

Як зазвычай, шмат выпадковых аратараў. Не на тэму, якой была: *Незалежная прэса: свабода і адказнасць*. І я гаварыў не цалкам дарэчы, РБ і бел. мяншыні, але: па-першае, не вельмі мяне паведамілі пра гэта ў запрашальным лісце, і па-другое, лічыў лепш пакарыстацца нагодаю, каб звярнуць увагу міжнароднай аўдыторыі на драму нашага тут беларускага існавання. Найперш!

Нейкі арганізацыйны мінус Кангрэсу — адсутнасць часу для дыскусіі. Хоць, у кулуарах, не заўважалася схільнасці да яе, а з'ехалася ж к. сотні чалавек (трапіна з Еўропы і СНД).

Таварыскае жыццё асабліва не бушавала. Цэны, цэны, у першую чаргу алкаголяў (вышэйшыя за еўрапейскія). І не вярталі коштаў дарогі, а былі яны *еўрапейцам* не малыя (на беларускі самалёт Варшава — Мінск — Варшава я заплаціў ільготна к. 2 мільёнаў зл.). (...).

— Дома (10-га) глядзеў нешта фантастычна новае: штомесячную невялікую беларускую перадачу па II-ой праграме польскага лакальнага TV. Добрую і ў добрую пару (18.00). Першая была ў жніўні.

**1995 — 09 — 20.**

Таня паклікала мяне да тэлевізара (акурат працаваў над *Канцом купалаўскай увы нацыі*). У Варшаве дае інтэрв'ю... Hienadź Bykau! А былі ж запынілі яго лукашэнкаўцы. Значыць, меў месца міжнародны ціск. Вольныя прафсаюзы Беларусі выратавалі; паедуць туды грузы з дапамогаю. Як некалі ў *Салідарнасць*.

Малады з яго, інтэлігентны чалавек. На грунце беларускай дзяржаўнасці. Не абмежаванне — гэта расійскія танкі ў Брэсце! — думайце, палякі.

Пачынаю пісаць кн. пра Хадкевічаў (заказ Лёніка).

Асеннія парадкі ў садзе і агародзе.

**1995 — 09 — 28.**

Слаўка мае сына! (раніцай пазваніў мне). Разам у яго ўжо трое дзяцей — дачка Аляксандра і пасынак Шымак. (...)

Знясільваючыя дні: мноства публіцыстычнай пісаніны за сабачы грош! (...)

***(канец)***

# Лукашэнка ў штомесячніку „Playboy"

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь стаў настолькі папулярнай персонай, што паявіўся нават у польскім выпуску сусветна вядомага амерыканскага штомесячніка „Playboy". Не ў ролі, аднак, секс-бомбы, але як прыклад адмоўнага героя сродкаў масавай інфармацыі.

„Playboy" сцвярджае, што адной з галоўных прычын прагі Лукашэнкі далучыць Беларусь да Расеі з'яўляецца яго паланафобія. Здзейсніць намеры перашкаджаюць яму не толькі грамадзяне з апазіцыйным да яго стаўленнем, але перш-наперш мас-медыі. У якасці прыкладу, прыводзяцца выключаныя перадатчыкі пецярбургскай тэлестанцыі, калі тая паказвала „Партрэт прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў вачах апазіцыі" з ягонымі крыклівымі прамовамі на тэму гісторыі і будучыні краіны.

Побач кароткага тэксту змешчаны рысунак лысага крыкуна ў вышыванай сарочцы, з падобным на Гітлераў вусікам, за якім стаіць цень у вушанцы, з аўтаматам за спіной і яркай чырвонай зоркай на грудзях.

Некаторыя кажуць: не важнае як пра нас пішуць, абы пісалі. Калі так, дык дзякуючы Лукашэнку, Беларусь становіцца сапраўды вядомай у свеце.

**М. В.**

# Мая літаратурная прыгода

Нездарма кажуць: паспяшыш — насмяшыш. І гэта праўда.

На 23 мая меў я запрашэнне ў Бельскі дом культуры на літаратурнае спатканне з такімі, як і сам, дзе мелі нам уручыць узнагароды за ўдзел у літаратурным конкурсе. Спатканне было запланавана на 13-ю гадзіну, і я мусіў выехаць з Дубіч-Царкоўных а 8.30 раніцы, бо пазнейшага транспарту не было. Ну і паехаў. Заехаў, а там, у Доме культуры, і кот не валяўся — нікога не было і ўсё пазамыкана. Не маючы дзе падзецца, хадзіў я па вуліцы без толку. Мо праз гадзіну пад'ехалі пад Дом культуры прадстаўнікі ваяводскіх улад з дырэктарам Казімежам Дэркоўскім. З'явіўся таксама Мікола Ваўранюк, які запрасіў мяне ў сваю кватэру, дзе выпілі мы па гарбаце і шчыра пагаварылі. Яму спяшалася і мы паехалі пад Дом культуры, які ўжо быў адкрыты. Пайшоў я ў залу, дзе мела адбыцца ўрачыстасць. І чакаў. Каля першай пачалі з'яўляцца першыя госці. З'явіўся Мікола Лук'янюк, сеў каля мяне і мы шчыра разгаварыліся. З'явілася таксама Аўрора і я даведаўся, што яна ўжо чатыры гады замужам і жыве цяпер у вёсцы Мора — на радзіме нашага класіка Віктара Шведа. Прыйшлі таксама маладыя бельскія ліцэісткі, пераважна ў міні-спаднічках, якія да хвалявання падкрэслівалі іх прыгажосць. Прыбыло і тэлебачанне. Нарэшце з'явіліся і прадстаўнікі арганізатараў конкурсу ў асобах Я. Вапы, Я. Міранові ча і Н. Артымовіч, якія і адкрылі ўрачыстасць.

Удзельнікам конкурсу, будучым паэткам і паэтам былі ўручаны грашовыя ўзнагароды, альманахі літаб'яднання „Белавежа", літаратурныя газеты на польскай мове, а некаторым і альбомы. Хочацца з радасцю адзначыць, што ўзнагароды атрымалі і вучні пачатковых школ, як напрыклад Жанэта Роля.

Я пагладаў на гадзіннік, бо ў 15.20 ад'язджаў мой апошні аўтобус у Гайнаўку, з якога я яшчэ мог паспець у Дубічы. Была 15-я, афіцыйная частка заканчылася і ўсіх запрашаюць на пачастунак. Я думаў не ісці, але Лук'янюк намовіў мяне зайсці на некалькі хвілін; паслухаў я яго. Заходзім, а там сталы ўгінаюцца ад ласункаў і напіткаў! Канверт з грашовай узнагародай я быў адразу палажыў у кішэню. А тут, газету з кніжкай палажыў на вольнае крэсла ў другой зале. Тое ж сама зрабіў і Лук'янюк, і яшчэ нехта. Спрабаваў я піроўнае, запіў ліманадам, перапрасіў, развітаўся са стоячымі паблізу і ў дзверы, каб на аўтобус! Нехта крыкнуў: Коля, забірай сваю газету з кніжкай, бо застанецца! Я, доўга не думаючы, схапіў з крэсла завернутую ў газету кніжку (яны ж усе аднолькавыя) і пагнаў на станцыю. Паспеў яшчэ на свой аўтобус. У аўтобусе пашчасцілася мне сядзець і гутарыць разам з адным цікавым чалавекам з Горнага, мастаком, які рысуе і выпальвае іконы. Яго працы папалі ў Брусель, Парыж і другія гарады Еўропы. Развіталіся мы як сваякі — вось што значыць беларуская душа!

У Гайнаўцы меў я крыху часу і зайшоў у кнігарню, паглядзець, што цікавага. Нічога не купіў, бо беларускіх і рускіх кніжак няма, а польскія страшэнна дарагія. Выходзячы з кнігарні, я спатыкнуўся на парозе і альманах „Белавежы" выпаў з газеты на тратуар а разам з ім і нейкія карткі. У мяне ніякіх картак не было і я спачатку падумаў, што памылкова забраў кніжку Лук'янюка. Аднак карткі былі запісаны дзіцячым почыркам, а сярод іх быў і канверт з узнагародай усярэдзіне; на канверце алоўкам напісана: Жанэта Роля...

Хаваю ўсё пільна ў кішэню і дзякую Богу, што не згубіў у дарозе канверта. Ахапіў мяне жах, калі падумаў, як цяпер адчувае сябе Жанэта: мо плача, што ўзнагарода прапала... Амаль бягу на прыпынак, а там мой сусед, убачыўшы мяне, пытае: Чаму ты Коля так усхваляваны, аж белы? Бяда, кажу, і расказваю дакладна. Сусед кажа: Здарылася памылка, а ўзнагароду неяк вернеш. Дадому ехаў, як на іголках. Дома схапіў за тэлефон і ў Бельск... Расказваю ўсё дырэктару, сп. Лукашуку, каб там не хваляваліся, бо ўсё пастараюся чым хутчэй вярнуць. Аж расхваляваўся быў...

Жанэту Ролю а таксама ўсіх удзельнікаў урачыстачці сардэчна перапрашаю.

**Мікалай Панфілюк**

# Пазьняк

***(працяг са стар. 4)***

пасля сустрэчы З. Пазьняка з паслом Уніі працы А. Смулкам, абодва ўдзельнікі выказалі волю стварэння ў Беластоку беларускага інфармацыйнага цэнтра.

Акрамя сустрэч афіцыйнага характару, пабыўка З. Пазьняка ў Беластоку мела яшчэ два моманты, у якіх выявілася, можна сказаць, сутнасць плюралізму грамадства на Беласточчыне. 29 мая З. Пазьняк выступіў у прамым эфіры па Беластоцкім радыё, а наступнага дня, у завяршэнне ўсяго візіту, сустрэўся з жыхарамі Беластока. І тое, і другое мелі сваю ўнікальную афарбоўку. Радыё — ананімнасць тэлефонных званкоў; сустрэча з беластачанамі — магчымасць глянуць чалавеку ў вочы. На хвалях эфіру, гэта бездыскусійна, перамаглі прыхільнікі палітыкі прэзідэнта А. Лукашэнкі — яны закінулі старшыні БНФ, між іншым, здраду свайму народу і... няведанне беларускай мовы. Удзельнікі сустрэчы — стараліся пераканаць З. Пазьняка, каб не атаясамліваў ён выказванняў, што прагучалі па радыё, з голасам усёй грамадскай думкі на Беласточчыне.

— Вам трэба ведаць, — сказала беластачанка Марыя Урбан, — што мы тут спачуваем ахвярам рэпрэсій і мы салідарны з вамі ў тым, што вы для сваёй краіны робіце.

**Аляксандр Максімюк**

# Успаміны Яна Жака

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

У саракавым годзе зноў саветы бяруць у войска, у Беласток, у *лончносць*. Патрымалі два месяцы і пусцілі дадому. Як блізілася вайна, зноў змабілізавалі, у Заблудаў, у ваенкамат. Сагналі дзень ці два перад вайною можа з тысячу чалавек. Палітрук, калі ўжо вайна пачалася, вывеў нас на пляц пад адкрытым небам і нам там *выклад* рабіў. То я выступіў і кажу: „Таварыш палітрук, нехарашо дзелаеце". — „А что такое?" — „Вы вывелі нас у чыстае поле, а, відзіце, самалёты нямецкіе летают. Нас, як агледзят, як наліцят, то нас усіх тут пабамбят". — „Ну, харашо", сказаў і завёў нас пад дрэвы. Прайшло мо з паўгадзіны, ляціць эскадра нямецкіх самалётаў, можа з шэсцьдзесят штук. А пад Заблудавам, у бок Бельска, каля вёскі Сальнікі быў збудаваны аэрадром, і там ужо савецкія самалёты сталі. А ў той дзень закамандавана было чысціць *бронь* і ўсе самалёты былі разабраны для чышчання, і артылерыя была разабрана, відна ўжо гэта *падзелка* была. То як наляцелі, то і той аэрадром разбілі, і Заблудаў часткова пабілі, гарэў. І той пляц, на якім мы абучаліся, таксама збамбілі. І камандзіры тады сказалі: „Трудно, теперь кто куда хотит, домой, бо мы не успеем вас обмундировать". Ну і я вярнуўся дадому. А тут узяў і прылучыўся да савецкай партызанкі, памагаў ім; нават з Баранавіцкай шашы зброю ім давозіў у Гарымоўскі лес. Дзесяць аўтаматаў вёз праз Міхалова, прыкінуўся, што драмлю. Немцы на вуліцы стаяць, трох драбаў. Пабачылі мяне, гумай па плячах „разбудзілі", але ў воз не заглядалі. Знайшліся, аднак, такія людзі, што далажылі немцам, што наша *фамілія* мае дачыненне з партызанкаю, то як немцы прыехалі 22 верасня 1942 года, то мяне і швагроў маіх чатырох забралі ў Міхалова на пастарунак. Там нас дапытвалі: паставілі табурэтку пасярэдзіне пакоя і нас б'юць гумамі, каб штось расказалі: дзе партызаны, дзе што. Білі да непрытомнасці, пасля выкідалі на калідор і бралі наступнага. Калі наканец дайшла мая чарга, паступіла паведамленне, што каля Майдана партызаны заатакавалі немцаў, удзень. І тыя нашы каты сядаюць на маторы і едуць з дапамогай сваім. Астаўся толькі адзін немец, *тлумач*, што пратаколы пісаў. Паклікаў мяне і кажа: „Я біць не бэндэ, муў праўдэ". А ён быў такі, што падказваў нават, што гаварыць, каб на карысць было, добры нямчура быў. І пытаецца, ці я з партызанкаю знаўся. Я адказваю, што я *рольнік* і нікога з партызан не ведаю. Усё гэта помста суседзяў: пасварыліся са мною і *заўдалі* мяне. І той немец добры, лёгкі пратакол мне напісаў. Ну і з тым пратаколам вывезлі нас у беластоцкую турму. Па дарозе яшчэ дапытвалі ў гестапа на Сянкевіча. Паставіў пад плотам і аўтамат да плячэй прылажыў. А я кажу: „То бі". — „Веле маш кіндэр?"— „Драй".— „А я маю цвай". І апусціў дула. У турму забралі таксама жонку з малымі дзецьмі; дома асталіся толькі бацька і маці. У турме прабыў я сем месяцаў, да красавіка сорак трэцяга. За той час многіх выклікалі на расстрэл, у тым ліку і маіх чатырох швагроў — 16 сакавіка. 24 красавіка нас, каля 500 чалавек, вывозяць поездам у канцлагер Штутгаф каля Гданьска. На браме быў надпіс „Лагер смерці". Нашы папярэднікі, якіх прывезлі раней, выглядалі як трупы, чорныя, худыя. Я праз год так аслаб, што ўжо ў шпіталь трапіў, дзеля *выканчэння*. Мне і тут паспрыяла шчасце — лекарам быў таксама вязень, знаёмы майго бацькі. І ён скіраваў мяне на кухню, на якой працаваў я цэлую зіму.

Пасля назганялі столькі вязняў, што замала месца было і трэба было лагер разбудоўваць, выразаць сасновы лес, што рос побач. Як доўгая, дваццацімятровая хвойка, зганялі людзей, каб выцягнуць яе на дарогу, бо коньмі нельга было ўехаць. Пакуль адну хвойку выцягнуць, то немец заб'е двух-трох, бо людзі не могуць падняць, калі кожнага чалавека самога трэба падтрымоўваць. Дасць калкам па галаве раз-другі і хопіць. Я прарабіў так амаль год; са мною на нарах у тым бараку быў адзін паляк, з Гдыні, Мэдан Антоні называўся, магістр. Бацька яго быў немцам, а маці полькай. Немцы запатрабавалі адяго, каб нямецкае падданства прыняў. А ён не, бо паляк; за тое яго і ў лагер забралі. Ён размяркоўваў на працу і скіраваў мяне ў абутковую майстэрню, у будынак, дзе я прабыў аж да эвакуацыі. Яму жонка два разы ў тыдзень прысылала з Гдыні ежу, лагернай ён не еў, а аддаваў мне, так мяне падтрымоўваў. 24 студзеня немцы загадалі эвакуацыю — хто можа, а хто не можа, можа астацца. Мы ўсе здаравейшыя пайшлі. Немец ганяў нас па дарогах, нанач замыкаў у стадолах. Здымаем адзенне і часць кладзем пад сябе на снег, а другую часцю накрываемся; усе голыя так спалі. 10 сакавіка занялі нас саветы, каля Лембарга. Саветы загадалі нам вяртацца галоўнай дарогай, бо, казалі, як сыдзем убок, то могуць нас расстраляць. Сталін тады даў салдатам два тыдні свабоды: што хочаце, тое рабіце. То саветы, за здзекі, забівалі тых немцаў, што асталіся; да якога дому не зойдзеш, то ўжо трупы ляжаць. Удалося мне дастацца на поезд, і з перасадкамі дабраўся я гэтым транспартам у Беласток.

Вярнуўся я ў Каўпакі у канцы красавіка, а тут немец усё спаліў; няма ні вопраткі, ні ежы; палова вёскі жыла ў маёнтку ў Мальцы. Жонку з дзяцьмі немец выпусціў толькі ў 1944 годзе. Вярнуўшыся, я два тыдні дома не начаваў, бо пад шыльдай акаўцаў розныя банды хадзілі; у Патоцы забілі 4 чалавек, у тым і майго швагра, што сястру трымаў, а вёску спалілі. У Подварках забілі пару чалавек, у Жыўкове, адну сям'ю ў Пухлах. Прыйшлі і ў Мальнік, у дом, дзе я акурат быў, і пытаюць, хто ў пакойчыку жыве. Сказалі ім, што дзве ўдавіцы. Ну і яны не заглядалі, паехалі. І так я астаўся ў жывых — пражыў вайну, а тут дома...

Пасля вайны ўлада нас, лагерных, шанавала. Выбралі мяне радным у Заблудаў, пасля войтам стаў; у гміне служыў 15 гадоў. Перад тым, аднак, войтам быў Харашуха з Каменкі, забілі яго ўдзень у гміне. Ну і мы радзілі, каго на войта цяпер узяць. І рашылі пайсці ў касцёл, там арганісты быў, добры чалавек, Шока, здаецца, называўся. Ён спачатку не хацеў, але потым згадзіўся, і быў датуль, пакуль гэта ўсё ўціхамірылася; а пасля, у 50-м я ўжо стаў войтам.

У 50-х гадах улада пачала націскаць на сялян, каб ішлі ў калгасы. Людзей прыціснулі падаткамі, абавязковымі даставамі. Пачалі паўставаць калгасы: у Астраўках, у Мальнцы, у Тапалянах. Людзі неахвотна адносіліся да гэтага, трэба было папанамаўляць, бо і нас прыціскалі. Я сам не ўступіў у калгас. У Каўпаках у калгас запісаліся нямецкія агенты, хацелі гэтым адкупіцца. І мяне двух *заўдало*, сказалі, што каб Жак уступіў, то і ўся вёска ўступіла б. І мяне паклікалі ў камітэт, там усё *начальства* было, і гаворыць, што каб я ўступіў, то за мною пайшла б уся вёска. А я адказваю: „Іх каб выкінуць, а свежых набраць, то я ўступлю першы. Я за іх сядзеў у турме і лагеры, і зноў мяне пасадзіць хочуць". Ну і больш да мяне не чапляліся. Потым стаў на працу ў ГС, і там перапрацаваў таксама 15 гадоў. Прадаўцом у Каўпаках быў, аж да выхаду на пенсію.

Запісаў
**Аляксандр Вярбіцкі**

# Дні Бельска — свята дзяцей і моладзі

Яшчэ ў 70-ыя гады ў Бельску-Падляшскім усталявалася традыцыя веснавога свята горада. Пасля некалькіх гадоў перапынку, у мінулым годзе самаўрадавыя ўлады аднавілі імпрэзу. Галоўны арганізацыйны цяжар, як летась, так і сёлета, узяў на сябе Бельскі дом культуры, дзе дырэктарам вядомы аніматар беларускага музычнага мастацтва Сяргей Лукашук. Цяжар немалы, бо „Дні Бельска" працягваліся больш за тыдзень — ад 25 мая па 2 чэрвеня.

Першапачатковыя планы арганізатараў моцна папсавала надвор'е. Задажджылася і пахаладзела на некалькі дзён, дык давялося адмовіцца ад шумных канцэртаў-фэстаў у гарадскім парку. Нават тыя ж самыя калектывы, але ў іншым месцы — пад гасцінным дахам таго ж БДКу — стварылі ўжо іншую якасць. Адчувалася меншае зацікаўленне бяльшчан мерапрыемствамі, не было відаць настрою карнавалу, аб свяце сведчылі толькі вялікія рэкламныя палотнішчы над цэнтральнымі вуліцамі.

Толькі пад вечар 28 мая ўдалося выйсці з імпрэзай на двор. Была гэта прэзентацыя фірмы „Rolmak", якая займаецца сельскай гаспадаркай і пасняхова, ва ўласнай сетцы крамаў, гандлюе сваімі вырабамі. Каля мэрыі прадпрымальнікаў з



*Бурмістр Андрэй Сцепанюк віншуе дуэт з „Маланкі" Яўгенію Барысюк і Канстанціна Селевановіча.* Фота Міколы ВАЎРАНЮКА

Макаўкі, Нарваўскае гміны, выхвальвалі бельскія калектывы, прадаўшчыцы частавалі сокамі, кавай і мяснымі вырабамі. Наканец сярод тых, хто зрабіў пакупку на больш за 20 новых злотаў была разыграна латарэя, галоўнай узнагародай у якой быў кош вяндлін.

Пасля гэтага рабілася ўсё цяплей і свята працягвалася ў штораз лепшай атмасферы.

„Дні Бельска" гэта, перш-наперш, свята дзяцей і моладзі. Таму менавіта найбольш было мерапрыемстваў, падрыхтаваных для дзіцячай публікі ды з удзелам маладых выканаўцаў. Былі канцэрты, розныя музычныя і мастацкія конкурсы, спартыўныя турніры, міжшкольныя спаборніцтвы. Найбольшым, відаць, быў турнір танца ў новай гімнастычнай зале Пачатковай школы н-р 3, маладыя ўдзельнікі якога прыехалі з розных гарадоў Польшчы.

У ходзе „Дзён" былі і беларускія акцэнты. Выступалі народныя калектывы, якія працуюць пры Бельскім доме культуры: „Васілёчкі" і „Маланка", дзіцячы гурт з „Тройкі" „Журавінка" і маладзёжны з Беларускага ліцэя імя Тарашкевіча „Дзявочыя ноткі", школьныя хоры з гэтых дзвюх беларускіх, як іх называюць у горадзе, школ. Са Слоніма прыехаў калектыў „Забава".

З нагоды свята шасці асобам з Бельска міністр культуры і мастацтва Польшчы прысвоіў ганаровае званне „Заслужаны дзеяч культуры". Чатыры з іх — беларускія спевакі: Яўгенія Барысюк і Канстанцін Селевановіч з „Маланкі" ды Надзея Леснік і Ірэна Астапчук з „Васілёчкаў". Узнагароды ўручаў, у старой бельскай ратушы, дырэктар Аддзела культуры, спорту і турызму Ваяводскай управы ў Беластоку Казімеж Дэркоўскі. Бурмістр Андрэй Сцепанюк падзякаваў усім заслужаным для развіцця культуры ў горадзе дыпломамі. „Калі мы сустракаліся ў мінулым годзе, — адзначыў, — выказаў я спадзяванне, што праз год можа знойдуцца нейкія, прынамсі невялікія грошы, каб аддзячыць. На жаль, сёння застаецца мне толькі захоўваць такую самую надзею".

**(ак)**

# Наша пошта

Я — беларус (не камуніст) і хачу выказаць свае меркаванні наконт актуальнай сітуацыі ў адносінах паміж нашай краінай і Беларуссю.

Вельмі мне прыкра, што такі разумны і паважаны чалавек як Алег Латышонак умяшаўся ў такую непатрэбную справу. Я зусім згодны з пазіцыяй пасла Беларусі, якую ён выказаў у інтэрв'ю для „Нівы" ад 2 чэрвеня.

На маю думку, у Беларусі былі праведзены дэмакратычныя выбары і дэмакратычна быў выбраны прэзідэнт (ён не дыктатар). Што гэта ўсё не падабаецца „Салідарнасці", усім вядома. Яны ўсюды ўчынялі б скандал і нічога добрага ў Польшчы яшчэ не зрабілі.

Зянон Пазьняк — палітычны банкрут, якога падтрымоўвае Алег Латышонак. Па-мойму тут розніца ўсё-такі ў рэлігіі. Пазьняк і Латышонак — гэта католікі. Мне здаецца, што гэты Беларускі саюз Яўгена Вапы таксама складаюць католікі, паколькі яны хацелі б, каб Беларусь была пад уплывам Польшчы, хаця большасць беларусаў гэтага не хоча, бо яны баяцца польскіх паноў. Як было перад II сусветнай вайной, то я трохі помню. Мой бацька з-за таго, што быў беларусам, не мог працаваць сакратаром у гміне, а толькі сказалі яму, каб стаў праваслаўным палякам і тады будзе сакратаром у гміне. І гэта праўда. А вы тут аб вялікай талерантнасці ў Польшчы гаворыце. Ведаю, што меншасці ў кожнай краіне многа не падскочаць, але палякі ў Беларусі хацелі б больш ксяндзоў і ўвогуле яны хварэюць на марскую хваробу, калі мараць аб Польшчы ад мора да мора, але гэта ім не атрымоўваецца.

Па-мойму, вы, паважаныя маладыя людзі, не ўскладняйце адносін з Беларуссю і не арганізуйце ніякіх прадстаўніцтваў Пазьняку ў Польшчы. Няхай такое робіць, калі хоча, „Салідарнасць".

Пахваляю пазіцыю Яна Сычэўскага — бо свету не выпрастаеш; быў ён і застанецца крывым, што не сведчыць, што разумна яго трэба праставаць.

**Ваш чытач з Гайнаўкі**

**Szanowny Panie!**

Jestem zaskoczony zaangażowaniem się Pana (Łatyszonka — red.) w obronie rzekomych obrońców niepodległości Białorusi w postaci nacjonalistów polskich, takich jak: **Z. Paźniak**, Szuszkiewicz, Kiebicz, Gryb, Statkiewicz i temu podobnych. Są to osoby, które walczą o polskość tych ziem białoruskich oraz szerzenie katolicyzmu wśród prawosławnej i białoruskiej ludności. Byłem świadkiem wystąpienia na zebraniu przedwyborczym (do parlamentu) w Baranowiczach (niedaleko od Grodna — miasto powiatowe) pseudopolitytyka Z. Paźniaka, który nawoływał ludność prawosławną na katolicyzm, bo łatwiej będzie Białorusi wstąpić do NATO i Unii Europejskiej. Nie mówię o innych wystąpieniach tego obrońcy białoruskości i pseudopolityka i wielu innych, którzy usilnie walczą o katolicyzm, polskość na Białorusi. Tymczasem Pan spotyka na dworcu rzekomego obrońcę Białorusinów (Z. Paźniaka) oraz demonstruje pod konsulatem białoruskim. Zapewne nigdy nie był Pan na Białorusi i nie rozmawiał z rzeczywistymi Białorusinami na temat poglądów i poczynań w/w polityków.

Nie chcę przytaczać treści listu prof. Szuszkiewicza, który przedstawił mi swoje poglądy i poczynania odnośnie walki o historyczną polskość ziemi białoruskiej. To przecież naukowiec i były czerwony komunista, a teraz obrońca polskości pod płaszczykiem niepodległości Białorusi.

Dlatego też wypowiedź Pana na temat poglądów i walki białoruskiego komunisty Prytyckiego z okresu międzywojennego oraz pomordowanych Białorusinów przez bandy akowskie kolidują wyraźnie z obecnym (ostatnim) angażowaniem się Pana w obronie nacjonalistów polsko-katolickich na ziemi Białorusi. Świadczyć to może tylko i wyłącznie o niekompetencji oraz małej wiedzy i niedostatecznym doświadczeniu Pana na temat rzekomych obrońców Białorusi (brak wiedzy i młody wiek do pewnego stopnia usprawiedliwiają Pana poczynania, ale chyba z czasem zrozumie Pan i wyłączy się z tej brudnej i fałszywej obrony białoruskości).

To jest, proszę Pana, piąta kolumna polska, która szuka obłąkanych Białorusinów na Białostocczyźnie do obrony nacjonalistycznych interesów oraz poparcia ich poglądów ze strony O. Łatyszonka lub wulgarnego pisarza S. Janowicza i kilku innych działaczy szczególnego pokroju.

Prawdopodobnie szuka Pan poparcia ze strony obecnej opozycji oraz wulgarnych działaczy solidarnosciowych w swoich poczynaniach dla własnych egoistycznych „sukcesów" politycznych. Jednak poparcia tego pan nie uzyska — jako Białorusin i pozostanie nadal miernym dziennikarzem w redakcji „Niwa".

Proszę o zastanowienie się głębiej nad swoimi poczynaniami i zmianę poglądów na wiele spraw dla dobra pańskiej kariery życiowej.

Życzy Panu wszystkiego dobrego —

**oddany Białorusinom**
**prawnik naukowy na emeryturze**

**Ад рэдакцыі:** З надрукаванымі побач лістамі цяжка весці палеміку, таму што іх змест у асноўным прадстаўляе нейкую міфалогію. Ні Пазьняк, ні Кебіч, ні Статкевіч, ні Грыб, ні Шушкевіч — гэта не „польскія нацыяналісты", а толькі католікі. Таксама як палякамі не з'яўляюцца італьянцы, іспанцы, французы, немцы, мексіканцы, хаця ў пераважаючай большасці яны каталіцкага веравызнання. Па-другое, беларус з Беласточчыны, які хоча, каб яго Бацькаўшчына была вольнай і незалежнай, каб яго суродзічаў не біла чужая паліцыя, не мусіць быць палякам і католікам. Ні Алег Латышонак, ні Беларускі саюз не абражаюць тых тутэйшых праваслаўных беларусаў, якія думаюць аднолькава як „дэмакратычна абраны прэзідэнт" Лукашэнка, і якія хацелі б вяртання ў савецкую рэчаіснасць. Шаноўныя спадары, у які спосаб можна пераканаць вас, што беларус, які хацеў бы, каб яго народ быў вольны, багаты і цвярозы, не з'яўляецца ніякім здраднікам.

І апошняе, ці чалавек, які называе сябе беларусам, можа падтрымліваць ліквідацыю свае дзяржавы, свае мовы, пагарджаць сваёй культурай, абы-якава ставіцца да таго, што ў свеце гавораць і пішуць пра Беларусь?

Але ці сапраўды Беларусь, менавіта, прадстаўляе яму нейкую вартасць?

**Яўген Мірановіч**

**Васіль Сакоўскі**

# З гісторыі маёй сям'і, вёскі і мясцовасці

*(працяг; пачатак у 18 н-ры)*

Як упісаліся ў гісторыю нашай вёскі мае продкі-родзічы?

Па-мойму някепска, я з іх задаволены. Мае продкі Антанюкі-Сакоўскія былі пастаяннымі жыхарамі нашай вёскі. І Антанюк, і Сакоўскі — раўнапраўныя і незалежныя адно ад другога родавыя прозвішчы. Такіх у нашай вёсцы больш не было і няма.

Першым з іх было Антанюк. З гонарам насілі яго ўсе мае продкі ад часоў маёй прабабкі. Гэта прабабка мела некалькі сясцёр і брата. Брат, як і было прынята ў той час наследніку, астаўся на бацькоўскай гаспадарцы, а сёстры павыходзілі замуж. Прабабка была найстарэйшая. Яна выйшла замуж за Амяльяна Сакоўскага з вёскі Агароднікі. Там і жыла.

Дома аднак здарылася бяда. З раней люднай сям'і Антанюкоў сталася „одумэршчына", як у нас казалі. Такое здаралася ў той час не так ужо і рэдка.

Што рабіць з гаспадаркай і маёмасцю Антанюкоў, вырашыў вясковы сход („собрание"). Ён аўтарытэтна рашыў — перадаць гаспадарку найстарэйшай дачцэ, значыць маёй прабабцы, ужо Сакоўскай.

І яна з родным мужам, і, думаю, з ахвотай вярнулася ў родную вёску і пераняла асірацеўшую бацькоўскую гаспадарку. Так гэтыя два прыгожыя прозвішчы сышліся з сабой і сталі жыць далей у маім родзе раўнапраўна, аўтаномна і дэмакратычна: хто хацеў быць Антанюком — быў Антанюком, а хто хацеў быць Сакоўскім — быў Сакоўскім. А бывала, што ўжывалі іх напераменку: раз Антанюк, другі раз Сакоўскі. Гэта быў час, калі ніхто табе ў пашпарт не заглядаў, зрэшты, ніхто з мужыкоў і пашпартоў гэтых не меў.

Якімі ж людзьмі былі мае прадзеды? Паводле маіх інфарматараў, прабабка была вельмі добрай, рухавай, непаседлівай і працавітай жанчынай. Прадзед, халерпнік, любіў выпіць, і не адмаўляў гэтай прыемнасці сабе. Нават ідучы ў поле з валамі і сахой, мог заглянуць у родную карчомку, а калі там аказалася адпаведная кампанія, то і астацца ў ёй, бо работа не заяц і ў лес не ўцячэ, а добрая кампанія можа. Паінфармаваная прабабка забірала валы і саху сама дадому. Прадзеды паміралі яшчэ перад бежанствам.

Гаворачы пра спіртныя напіткі, трэба сказаць, што ў той далёкі час любілі выпіць нашы мужыкі. Бо як тут і не піць, калі вакол цябе шынкі ды карчмы: у горадзе, у вёсцы, пры праезджых дарогах. А ў іх можна выпіць за грошы, за збожжа і калі ты надзейны плацельшчык, то і ў крэдыт.

Вось і гулялі мужчыны, нярэдка несучы апошнюю капейку ў карчму. Калі ж не хапала капейкі і не давалі ўжо ў крэдыт, нашы продкі-п'яніцы шукалі іншых спосабаў пахмяліцца. І трэба сказаць, часта знаходзілі, бо якраз у гэтай справе яны былі надзвычай вынаходлівыя. Нейкі Сімун, з вясковай мянушкай Вэндзей, напрыклад, вырашаў гэту справу так. Браў анталку (гэта невялікая драўляная бочачка з двума днамі і невялікай каркаванай дзіркай збоку; яна звычайна была адпаведна аплецена вяровачкай і ў дарозе завешвалася коркам уверх каля воза) і ехаў за дванаццаць кіламетраў у Бельск. Там браў анталку ў рукі і хадзіў па крамах са спіртнымі напіткамі. Крамнікі-жыды такога кліента прымалі сардэчна, бо анталка ў яго руках сведчыла аб тым, што патрабуе ён большай колькасці разліўной гарэлкі: яны расхвальвалі свой тавар, чарку-другую падносячы на спробу бясплатна для рэкламы. Сімун прыстойна і дакладна выпіваў „спробу", цмокаў губамі, незадаволена круціў носам, што мела сведчыць, што гарэлка недастаткова добрая на яго паднябенне, і выходзіў. Ішоў у другую гарэлачную краму, каб ізноў паўтарыць тыя ж самыя прыёмы. Так абышоўшы некалькі крамаў і не купіўшы ні грама гарэлкі, п'яны як Бобік Сімун культурненька вяртаўся з песняй дадому.

У не менш арыгінальны спосаб мог Вэндзей арганізаваць сабе і закуску. Ішоў, напрыклад, з вялікім кавалкам хлеба ў магазін, нібы незнарок упускаў яго ў бочку з сіропам і крычаў: „Дзе ты паставіла гэту смалу! Праз цябе такі кусок хлеба змарнаваў!" Прадаўшчыца-яўрэйка вінавата вымала аблеплены сіропам хлеб і ў апраўданне суцяшала: „Сімунку, гэта добгэ, гэта сігуп". Такі сіроп у нас лічыўся далікатэсам мужыку...

З гэтага відаць, што не ўсё ў царскай Расіі было ўжо такім безнадзейным (маю на думцы гандаль з бясплатнымі спробамі), а нашы продкі не такія ўжо зацюканыя, прымітыўныя, безініцыятыўныя, калі ўдавалася ім у такім стылі перахітрыць, абдурыць нават жыда...

*(працяг будзе)*

# Байдарачны паход

Па ініцыятыве Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку ў тэрміне ад 27 ліпеня да 5 жніўня 1996 г. па маршруце Бандары — Тыкоцін адбудзецца **IV Самаўрадавы байдарачны паход далінай верхняй Нарвы**. Мэта мерапрыемства — прэзентацыя і інтэграцыя нацыянальнасцей і этнічных груп, якія пражываюць над ракой Нарвай. Кошты арганізацыі мерапрыемства нясуць самаўрады, якіх гасцямі будуць удзельнікі байдарачнага паходу.

Праграма:

— 27 ліпеня (субота): гадз. $9^{00}$ — выезд удзельнікаў з Беластока; $11^{00}$ — адкрыццё паходу ў гасцініцы ў Бандарах з удзелам упаўнаважанага ваяводы па справах нацыянальных меншасцей; 12—16 — паход на байдарках у Рыбакі; $18^{00}$ — татарскі вечар.

— 28 ліпеня (нядзеля): 10—13 — паход у Нарву; 14—18 — беларускі народны фэстын.

— 29 ліпеня (панядзелак): 10—16 — паход у Козлікі; 18—20 — украінскі вечар.

— 30 ліпеня (аўторак): 10—16 — паход у Плёскі; $18^{00}$ — экуменічная сустрэча з а. Рыгорам Сасной.

— 31 ліпеня (серада): 10—16 — паход у Дакторцы; 18—20 — цыганскі вечар.

— 1 жніўня (чацвер): 10—16 — паход у Сураж; 18—20 — расейскі вечар.

— 2 жніўня (пятніца): 10—16 — паход у Бакіны; 18—20 — польскі вечар.

— 3 жніўня (субота): 10—18 — паход у Курова і наведванне Нарвянскага нацыянальнага парку.

— 4 жніўня (нядзеля): 10—14 — паход у Златорыю і ўдзел у Даміні́канскім кірмашы ў Харошчы.

— 5 жніўня (панядзелак): 10—14 — паход у Тыкоцін; 14—16 — агляданне помнікаў яўрэйскай культуры; 16 — вяртанне ў Беласток.

## ПОЗІРК У МІНУЛАЕ

**16 чэрвеня**

1671 г. — выкананы смяротны прысуд на Сцяпане Разіне, правадыры мужыцкага паўстання ў Расеі.

1848 г. — аўстрыйскі маршал Віндышгрэц крывава расправіўся з паўстаннем чэшскіх патрыётаў у Празе.

1904 г. — у знак пратэсту супраць русіфікацыі Фінляндыі забіты яе генерал-губернатар Нікалай Бобрыкаў.

1958 г. — выканана смяротны прысуд на Імрэ Нодзі, які ўзначальваў венгерскае паўстанне ў 1956 г.

1963 г. — Валянціна Церашкова, першая ў свеце жанчына-касманаўт, пабывала ў космасе на барту касмічнага карабля „Васток-6".

**17 чэрвеня**

1025 г. — памёр Баляслаў Храбры, польскі кароль.

1696 г. — памёр Ян III Сабескі, польскі кароль.

1911 г. — у Лондане дэманстравала 50 тыс. суфражыстак за выбарчыя правы жанчын.

1953 г. — выбух масавых забастовак у ГДР, падаўленых савецкімі войскамі.

1972 г. — у гатэлі Уотэргейт сторож прымеціў семярых узломшчыкаў, якія хацелі размясціць падслухоўвыя ўстаноўкі ў галоўнай кватэры Дэмакратычнай партыі ЗША; успыхнуў найбольшы ў гісторыі ЗША палітычны скандал.

**18 чэрвеня**

1815 г. — бітва пад Ватэрло, у якой брытанскія і прускія войскі перамаглі войскі Напалеона Банапарта.

1882 г. — нар. Ігар Стравінскі, руска-амерыканскі кампазітар.

1882 г. — нар. Георгі Дзімітраў, балгарскі палітык.

1942 г. — нар. Поль Мак Картні, англійскі спявак.

1979 г. — у Вене падпісана дагавор SALT II аб абмежаванні стратэгічных узбраенняў.

1991 г. — паўднёваафрыканскі парламент адмяніў законы аб расавым раздзяленні.

**19 чэрвеня**

1924 г. — нар. пісьменнік Васіль Быкаў.

1986 г. — падчас пакарэння бунтаў у турмах Лімы (Перу) загінула каля 400 зняволеных.

**20 чэрвеня**

1397 г. — падпісанне Кальмарскай уніі, у сілу якой усе скандынаўскія дзяржавы аб'ядноўваліся ў адну пад панаваннем датскай кароны.

1566 г. — нар. Зігмунт III, польска-шведскі кароль.

**21 чэрвеня**

1813 г. — у бітве пад Віторыяй змагаючыяся за незалежнасць Іспаніі войскі пад камандаваннем маршала Велінгтона перамаглі французаў.

1906 г. — сенат ЗША прыняў рашэнне аб будове Панамскага канала.

1948 г. — на камп'ютэры *Mark 1* выканана першую ў свеце праграму.

**22 чэрвеня**

1633 г. — перад інквізіцыйным судом Галілеа Галілей адрокся ад свае „памылкі", што Зямля кружыцца вакол Сонца.

1933 г. — у Германіі забаронена дзейнасць Сацыял-дэмакратычнай партыі.

1941 г. — а 3.15 тры мільёны нямецкіх салдат пачало наступленне на СССР.

**(Ш)**

## ПАРНАСІК

### Хлеб і дзве дарогі

Хлеб усім патрэбны,
Ды ці Богу ты верны?
Думаеш розна —
Гуляць нават можна.
Дождж не мінуў майго поля,
Хаця ў грахах мая доля.
Пагода таксама не абмінула,
кранула,
Ды прыроды яна не абманула.
Навошта мне Бог?
Я і так занямог,
Па вушы я маю работы,
А таксама турботы.
У мяне Бог, гэта багацце і слава
І люблю, каб мне крычалі брава.
А кагось лепш асудзіць —
Душа ад таго не баліць.
Лічу — я сам дасканалы,
Магу расказваць *маралы*.
Я здаровы і моцны,
Лісліві, не злосны.
Начальнікі мяне знаюць,
Бо я багаты, і мяне паважаюць.
Я любога з іх падкуплю,
Каго трэба — паддабру.
Смерць — пакуль не страшна —
Мяне не знайшла.
А для адводу вачэй
І каб было весялей
Магу нават быць царкоўнай авечкай,
Буду стаяць напаказ там са свечкай.
Замала зямлі прыкупіў —
Затое я грошы злупіў
Ад наіўнага прадаўца,
Што купляў ад мяне-маладца.
Лаянка, крык — мая мода,
Гульня ў карты — прырода.
Думаю яшчэ больш разбагацець
І ўсё мець.
У ложак спакойна лягаю,
Ніякіх сумненняў не маю...
Але, што такое?! Нешта мяне бярэ,
Трасуся, што зуб на зуб не пападзе.
І мовы няма, калі хачу крычаць
злосна,
На ратунак, на жаль, ужо позна.

Такое жыццё без Бога,
Ды ў чалавека ёсць другая дарога.
Хаця яна вузкая і цярністая,
Але вечная і залацістая.
Выбірай яе як найхутчэй —
Будзеш жыць без граху і лягчэй.
І хлеб дацэніш як Божы дар
І скажаш: Бог вялікі Гаспадар.
І хаця была дажджлівая слота,
А пасля спякота —
Нам здавалася, што ўжо каюк:
Дзе ж праца нашых рук?
Дзе ўсё прапала?
Веры, любві і надзеі мала?
Ды Бог вялікі і міласэрны,
Да сваіх і грэшнікаў Ён верны,
Даў нам ураджай, і то вялікі,
Што не пералічыць на лікі.
Будзем славіць Яго, як можам,
Да малітвы сэрца прыложым.

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

### Беларусам мяне зваць

Я у Польшчы нарадзіўся,
Беларусам мяне зваць.
Пакуль жыці яшчэ буду,
Не буду веру мяняць.
Мяне ў царкве ахрысцілі
І да ўводу ў царкве быў.
Маці мяне навучыла,
Каб Закон Божы любіць.
І выконваць словы маці
Прысягаў я да канца,
Сваю веру шанаваці,
Яна ж родная, мая.
Сваёй верай ганаруся,
Веру ў Госпада Хрыста,
Маці роднай пакланюся,
Каб радасць у душы была.
Зайду я ў храм памаліцца,
Радасць льецца мне ў душу,
Хрысту Богу пакланюся
За гады, што я пражыў.
Заклікаю я ўсіх родных
Гэты словы к сэрцу ўзяць,
Сваёй верай ганарыцца
Ды яе не забываць.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**

## Крыжаванка



**Гарызантальна:** 3. адвар з рыбы, 8. горад на Магілёўшчыне, 9. пустазелле, 10. стужка ў свечцы, 11. горад на Віцебшчыне, таксама на Беласточчыне, 13. крайняя дошка ад распілоўкі бервяна, 12. горад у Беларусі, 16. кіпцюр, 20 падліза, 22. сярэднеазіяцкі эмір (1336—1405), 23. рыса, 27. прадмет для агляду, 29. дробны, перарывісты стук, 30. бядняк, галыш, 31. горад над Сенай, 32. від папугая, 33. дакумент, які дае права на праезд, 34. сімвал хрысціянства.

**Вертыкальна:** 1. ядавітая расліна, 2. трапічная птушка з сямейства буслоў, 4. пусты, нікчэмны чалавек, 5. горы ў Азіі, 6. падатак, які сяляне плацілі памешчыку, 7. водгук, рэпліка, 12. ядавітая змяя, 14. знаўца характараў і паводзін людзей, 16. вяроўка, якой звязвалі пярэднія ногі каня, каровы, 17. пара года, 18. парадак, паслядоўнасць, 19. паўзун з ядавітымі зубамі, 21. архіпелаг на Індыйскім акіяне, 24. еўрапейская краіна, 25. горад між Мінскам і Лідай, 26. рака, уліваецца ў Балтыку, 27. заслона, 28. плод фасолі.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 17 н-ра:**

**Гарызантальна:** Юкан, масаж, Еўропа, твар, кукса, Уэльва, Юрацішкі, рамка, нарачоны, прафесар, хутар, акалышак, размах, танга, рута, Плеяды, флірт, джаз.

**Вертыкальна:** навука, парсюк, каваціна, неруш, трэлі, Апава, арабеска, экзархат, рапс, Маас, чорт, Тыгр, артыстка, Укаялі, Ангара, масла, аміяк, Охрыд.

Кніжныя ўзнагароды высылаем: **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Чэрвень

**Чэрвень**, шосты месяц каляндарнага года, пачатак лета. Беларускую назву звязваюць з чырвоным колерам.

Сонца ў чэрвені праходзіць праз пункт летняга сонцастаяння, найбольшая вышыня яго над гарызонтам у сярэдзіне месяца — 59°. Сярэдняя тэмпература паветра ў Беластоцкім ваяводстве — 16—17°C. У вельмі рэдкіх выпадках магчымы начныя замаразкі. У чэрвені глеба праграваецца да 17—21°C на глыбіню 5 см.

Адносная вільготнасць паветра 67—72%. Часта выпаральнасць перавышае колькасць дажджавой вады, і гэта прыводзіць да атмасфернай і глебавой засухі. Засушлівымі былі 1903 і 1940 гады. Для чэрвеня характэрныя моцныя вятры, град і ліўні. **(яц)**

## ВЕР — НЕ ВЕР

. Астроне, прысніўся мне надта ж харошы сон. Быццам знаходжуся я ў нейкай незнаёмай кватэры. А кватэра — прыгажосць! Праўда, бачу я толькі адзін пакой і ванную. Ванная — вялізная, як наш найбольшы пакой. А абстаўлена — быццам нейкі салон. Я думаю: навошта такі вялікі пакой ахвяравалі на ванную, тут жа можна было б абсталяваць нешта іншае.

А пакой, у якім я стаяла, не так цудоўна абсталяваны, але ў ім шмат кветак. Вазоны на вокнах, вісяць таксама на сценах штучныя кветкі, на стале стаяць у вазачцы жывыя кветкі.

І раптам у пакой уваходзіць мая супрацоўніца. Яна мне ўручае вялізны букет кветак і падарунак — прыгожую круглую брошку з рубінамі.

Тады мы выходзім з ёю на вуліцу. Побач з домам — могілкі. А яны такія прыгожыя, быццам нейкі парк. Цудоўныя, старыя помнікі стаяць у адным радзе, а каля іх шмат зелені, ды і зелень нязвыклая, нетутэйшая, вечназялёная.

Мая сяброўка з працы бярэцца паліваць гэтыя расліны, а я кажу, што няма чаго спяшацца, бо я ўжо ўсё папаліvала. І так мы стаім і захапляемся гэтай прыгажосцю.

Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Ліля**

Ліля! Сны абазначаюць толькі добрае і табе, і тваёй супрацоўніцы. Атрымала ты падарунак — будзе нейкая радасць, прыбытак. Выйшлі вы на могілкі — будзе нейкі поспех, радасць, задавальненне і ў цябе, і ў тваёй сяброўкі. Будзе спакойна жыць! **Астрон**


# Ніва

**„Niwa"**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK", Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1996 r. upływa 5 września 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-2700-1-08.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Рэклама

„Liposystem" прапануюць,
Але лепей уважаць.
Памяняць яму трэ назву
І ліпавым называць.
Паглядзі ты як „Polleny"
Ў нас па вуліцы ідуць,
Як у кошык твой ускочаць,
Табе шчасце прынясуць.
Сорам мне пісаць пра гэта,
Мушу праўду вам сказаць,
Ў тэлебачанні штодзённа
Аб падкладах нам бубняць.
Булён „Knorra" — гэта змора.
Пачні яго спажываць,
То за месяц ці за два
Стануць лёгкія высыхаць.
Нас рэкламай абдурылі,
Замуцілі белы свет.
Цягнуць твой апошні грош,
Хоць ты голы чалавек.
Маргарын жа „Kasia", „Basia",
Чорт яго там разбярэ,
Пхаюць табе проста ў горла,
А ты, дурань, толькі еш!
За рэкламу, мае мілы,
Бізнесмены грошы збілі,
А з нас, дурняў, так смяюцца,
Што ім фокусы ўдаюцца.
Абскубаюць не на жарты,
Калі сам не будзеш ўпарты.
Яны будуць рагатаць
І з кліентаў скуру драць.
Вось якая цяпер справа,
Абмануць дык ёсць устава.
З грошай людзей абабраць,
А потым іх шанаваць.

**Мікалай ЛУК'ЯНЮК**




*Мал. Ірыны КОРАБАВАЙ*

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Грыша купіў тры відэакасеты.

— Навошта гэтыя касеты?! — дакарае жонка. — У нас жа няма відзіка.

— А ці я пытаю навошта ты купляеш станікі...

* * *

У трамваі ў гадзінах пік размаўляюць дзве сяброўкі:

— Ведаеш, хіба буду мець дзіця.

— А з кім?

— Не ведаю; не магу адвярнуцца.

* * *

— Ведаеш, мая жонка хіба ненармальная — гадуе ў нашым пакоі сорак чарапах.

— Чуў я пра яе любоў да звяроў...

— Так, толькі ў кватэры страшэнны смурод.

— Дык трэба адкрыць акно і праветрыць кватэру.

— Акурат! Каб выляцелі мае пяцьдзесят канарэек...

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:

— Ці ты размаўляеш са сваім мужам падчас зносін?

— Бывае, што здараецца.

— Калі?

— Тады, калі ён да мяне тэлефануе.

* * *

Гутараць два сябры:

— Жонка адставіла мяне ад ложка і ад стала.

— То ты і есці не ўмееш?!

* * *

Два сябры вяртаюцца з працы:

— У мяне на абед будзе гарохавы суп. А ў цябе?

— Рыбны.

— Адкуль ведаеш?

— Жонка памяняла ўчора ваду ў акварыуме.

<u>У кіпцюрах цецерука</u>

## Буракаводства

Асацыяцыя надзімальшчыкаў каляровых шарыкаў (АНКШ) мае гонар паведаміць, што ў кнігарнях паявіўся чарговы ўжо гадавік з цыкла „Буракаводства — практычныя парады". Каб зацікаціць Шаноўнага Чытача, пастараюся тут абмеркаваць змест, ды аб'ясніць матывы, якімі кіраваліся аўтары, складаючы згаданую кніжку.

Пачну, вядома, з самага пачатку.

На старонцы н-р 1 кідаецца ў вочы цікавы артыкул „Калі садзіць буракі". Ніжэй, на рысунку, прадстаўлены ва ўсёй сваёй красе бурак звычайны (Beta vulgaris), ягоны цвет, суквецце і плод. Аўтар паясняе таксама, што буракі найлепш садзіць вясною.

На стронках 2—25 знойдзеце захапляючую, напухлую гістарычнымі фактамі распрацоўку „Дваццацігоддзе шаранадзімання на землях Падляшша". Аўтар прыводзіць на памяць цяжкія пачаткі АНКШ, клопаты з рызінай. Мала таго, што яе не хапала, ды калі ўжо была, тады заўсёды ў самым дрэнным гатунку, таўстаскурая і шэрая.

На старонках 26—30 рэкамендуюцца віншавальныя лісты ад нашых сяброў. На пачатак ад Міністэрства вытворчасці рызіны (яно ж забяспечвае нас сыравінай), потым ідуць віншаванні ад ваяводы, які запэўнівае нам дах над галавою, далей лісты бурмістраў навакольных гарадкоў, якія час ад часу дазваляюць нам пускаць шарыкі па-над сваімі мясцінамі. На сам канец змяшчаем ліст ад вучняў нейкай школы (мала, што жэўжыкі не займаюцца буракаводствам, то яшчэ марнатравяць найлепшую рызіну, гуляючы „ў татку і мамку").

На старонках 31—100 пра АНКШ пішуць нашы дзеячы. Гэта безумоўна найцікавейшая частка кніжкі! Я сам прачытаў яе разоў хіба тры і толькі тады дайшло да маёй свядомасці, якую вялікую частку работы адмахнулі мы на працягу апошніх дваццаці гадоў.

На апошняй, 101, старонцы змяшчаецца артыкул „Калі ўбіраць буракі". Аўтар падказвае, што буракі найлепш убіраць восенню, а на рысунку красуецца буйны бурачны плод, які вырас на нашых дасьледных загонах.

Унізе асталося яшчэ пустое месца, дзе спачатку планавалі мы памясціць выяву плода выгадаванага канкурэнтамі. Аднак быў ён і маленькі, і паморшчаны, і чарвівы. Так што ў рэшце рэшт адракліся ад гэтай думкі. Гатоў яшчэ нехта падумаць, што насміхаемся з яго.

Купляйце „Буракаводства"!,
да гэтага заахвочвае Вас
**сакратар ГП АНКШ**
**Мі(ха-ха)сь АНДРАСЮК**

## Кат спачыў

Кат спачыў, можа, з плеч
Не зляцяць галовы,
Трэба й плаху пасеч
І пусціць на дровы...
Толькі ўзнік недавер, —
Вязні жыць не рады,
Плачуць, — хто ж у нас цяпер
Навядзе парадак.

**Анатоль ЦЫРКУНОЎ**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Калі мы пажаніліся, было вельмі цяжка. Ніхто са старэйшых нам не дапамагаў, бо і не было з чаго. І вырашылі мы, што трэба нешта рабіць, дзіця ж расло і прыбывала выдаткаў. І такім чынам мой муж выехаў да сваякоў у Амерыку. Планавалі, што папрацуе там пару гадоў, каб зарабіць на людскую кватэру і самаход, а тады вернецца.

Планы — планамі, а жыццё — жыццём. Ніколі не думала я, што зможа ён рашыцца на тое, каб кінуць мяне з маленькай дачушкай без сродкаў да жыцця. Верыла, што вернецца.

Час ішоў, гады міналі, а ён не вяртаўся. Прысылаў спачатку нейкія грашакі, часамі — пасылкі, а пасля нават пісаць лісты перастаў. Я зразумела, што ў нешта там улез, але сваякі ў Амерыцы былі не мае, а яго, дык і словам да мяне не адзываліся. А пасля амерыканскі суд паведаміў мне, што муж са мной разводзіцца. І так скончылася наша „шчасце", бо муж там знайшоў сабе іншую жанчыну і ўжо меў нават з ёю дзіця.

Што мне было рабіць, засталася я адна, як калок. Дзіця ўжо хадзіла ў школу, я знайшла сабе працу ў прадукцыі (дагэтуль я працавала ў хаце). Крыху стала мне весялей, ды і з грашыма лепш. Пачала бываць сярод людзей.

І такім чынам пазнаёмілася я з прыгожым хлопцам. Пачалі мы сустракацца. Было мне так прыемна, калі ён наведваў нас, прыносіў дачушцы гасцінцы. За гады адзінства, калі я ўсё яшчэ чакала мужа, мне так не хапала мужчынскага цяпла, ласкавага слова, проста прысутнасці мужчыны ў маёй хаце. Я цешылася, што ізноў жыву. Праўда, мы рэдка кудысьці выходзілі, але добра было і тое, што ёсць, а былі, як мне здавалася, наймацнейшыя пачуцці. Навошта мне цяпер былі патрэбны тыя людзі, калі ён адзін уносіў у маё жыццё столькі цяпла!

Паколькі маё сексуальнае жыццё было неўпарадкаванае, у мяне разрэгулявалася менструацыя, і я зусім не заўважыла, што зацяжарыла. Агледзелася, калі была ўжо ў чацвёртым месяцы. І адразу ж сказала пра гэта майму найдаражэйшаму. Думала, што ён усцешыцца так, як і я, а ён... Лепш не гаварыць, што пачалося. Я думала, што ён мяне заб'е. Паводзіў сябе так, быццам вылез з яго цудоўнай постаці нейкі звер. Рабі што хочаш — на мяне не разлічвай! А што ж я ўжо мела рабіць, як не нарадзіць дзіця...

Я запыталася ў свайго „збавіцеля", калі ён крыху супакоіўся, чаму ён так знервваваўся, ці ён не любіць дзяцей. І тады ён выясніў мне, што ён — чалавек жанаты і дзяцей яму ўжо хопіць, бо мае іх ужо двое.

У мяне пацямнела ў вачах. Ён жа ніколі ніводным слаўцом не намякнуў, што ён жанаты чалавек. Ці ж звязвалася б я з ім, калі б ведала пра гэта?! Сама ж перажыла я ўжо трагедыю, калі нейкая іншая жанчына забрала ў мяне мужа. Уся трагедыя маёй сітуацыі стаяла перад маімі вачыма. Што я цяпер зраблю?..

Калі нарадзілася маё другое дзіця, я звярнулася да яго ў справе аліментаў. Не зарэагаваў. Тады я падала ў суд. Неяк даведалася пра гэта яго жонка і прыйшла сварыцца да мяне. Абзывала ўсякімі словамі, чаго я толькі не наслухалася... А я ж сустракалася з „хлопцам", а не з жанатым мужчынам ды бацькам дзяцей. І ніколі не пайшла да яе і не сказала, што зрабіў яе муж, нават тады, калі ён кінуў мяне, цяжарную. Не хацела разбіваць наступную сям'ю.

Ды і ён праследуе мяне, не згаджаецца плаціць аліменты. Кажа цяпер, што гэта не яго дзіця, а ён і знаць мяне не знае ... Цяжка і крыўдна мне.

**Крыстына**

Крыстына! Хаця цяжка і крыўдна, сваіх правоў трэба дамагацца. Кожнае дзіця мае права на бацькоўскую апеку. А несправядлівых людзей бадзяецца па свеце многа. Трэба ўцякаць ад іх.

**Сэрцайка**